от ідзе, яка корава жаба — поскідаліса. Цяперэка німа, это неколі... Неколі мой бацько тожэ открыў корыдора, а вона йдзе <...> Жаба, жаба. Така корава, ціпа як чэрэпаха, точно така поўзе. А бацько кажэ: ‘Ну вжэ ўсё, — вон все неколі на цётку Доню, свою сестру, вжэ козав. — Ох зарэ я тобе этэ самое покажу!’ Да она поўзла, а вон ее тако дзьвярамі прыжаў. Вы знаеце шо? Молоко льецца <...> І рачковала, каа, з гэтою сьпіною» [2, с. 566]. Вобразы чарапах і жаб могуць выступаць разам, уступаць ва ўзнаемадапаўняльныя адносіны і ў паэтычных жанрах, напрыклад у вясельнай прыпеўцы: «Ой, казалі, свахі рахі, // Ажно яны, як чэрэпахі. // пахі... // Ў чэровікі побуваліса, // Як і жабы надуваліса» [3, с. 467].

Выразная ***адмоўная ацэнка*** чарапахі і яе ***дэманізацыя*** выяўлены ў этыялагічных легендах. Так, у апошнія гады на Цэнтральным Палессі былі запісаны розныя версіі легендарных сюжэтаў пра паходжанне чарапахі [1, с. 485–486]. Акрамя ўзгаданай вышэй, што чарапаха з’явілася з удава або гадзюкі, якія паядалі людзей, апавядаюць пра тое, што чарапаха была крылатай, і ў яе не было панцыра, яна садзілася людзям на галовы і паядала іх, пакуль Бог не накрыў яе «чэрапам» («У нас чарапаха, значыць. Ну чарапаху Бог саздаў, таму што Он яе накараў. Того шо ў неё чэрап. Она сільно врэдная, чэрэпаха. Она... В ее былі крыла, і она нападала на людзей, і дажа сядала на голаву і могзі выедала. Так сталі жаліцца Богу, а Бог ей даў за тое, шо она стала на людзей нападаць... І Бог ей даў таку кару, шоб она, значыць, носіла чэрапа. А в неё былі крыла, і она летала» [1, с. 590]; «А, чарапаха... Дак дзед расказваў. Колісь была чарапаха так, бяз чэрапа. Дак ехаў краснаармеяц на кані, а яна саскочыла, да яго задушыла, таго салдата. Дак Бог даў ёй чэрпа, штоб яна чуць хадзіла. Эта нам дзед расказваў. Акаваў Бог чэрапам, штоб яна ня душыла, не саскаквала. А то была так. [Як змяя?] — Ага, ага, наверна, эта дзед нам так расказваў. Дак яна, кажа, саскочыла да задушыла таго салдата. Дак ужо Бог даў чэрапа, штоб яна еле хадзіла і штоб ужо няўрэдная, штоб ужо ня кусала... і цяпер гавораць: ‘Уродаваў, як чарапаху Бог» [1, с. 591].



Як і адносна шэрагу іншых жывёл і птушак, у традыцыйнай культуры беларусаў распрацаваны сюжэт ***паходжання чарапахі ад чалавека***, пры гэтым актуалізуецца жаночая сімволіка разгляданайжывёлы. Так, паводле запісаў Ч. Пяткевіча, чарапаха паходзіць з жанчыны, якая схавалася ад грому пад ночвы замест таго, каб хрысціцца. Сучасныя інфарманты апавядаць: «То была вельмо такая ябедная ці то жэншчына, ці хто... Так Бог яе накараў етым чэрапам. Налажыў на яе чэрап, каб яна нікуда [не глядзела]. Ад яе завісьці, ад усяго... Так даў ёй чэрап, каб яна нікуда не двігалася, каб яна толькі перад сабою бачыла. От толькі сваё глядзі» [1, с. 591]. «Ва ўсіх варыянтах гэтага сюжэта, — заўважае А. Боганева, — ёсць адзін агульны момант: Бог у пакаранне накрывае першапачатковую істоту «чэрапам». У выніку ад крылатай змяі застаецца толькі галава і шыя (у чарапахі галава і зараз «дакладна, як у зьмяі»), а жанчына-пляткарка пазбаўляецца магчымасці глядзець на іншых, а толькі сабе пад ногі. У маргінальнай зоне сюжэт пачынае згортвацца ва ўстойлівы выраз, яшчэ досыць блізкі і вядомы ў дачыненні да сюжэта, а на больш далёкіх межах пер態твараецца ў ідыёму. Так, у в . Маканавічы Рэчыцкага раёна існуе праклён ‘А каб цябе Бог чэрапам, як чарапаху, накрыў’. Пры гэтым уласна легенду пра чарапаху носьбіты традыцыі гэтай вёскі ўжо не ведаюць. Яшчэ больш шырокім колам расходзіцца ідыёма: ‘Суродаваў, як Бог чарапаху» [1, с. 485–486].На Берасцейшчыне ў сварцы казалі: «І ты шчэ ставіш сэбэ! Угэ ж бы Быг чэрэпаху суродовав! На шчо ты похожы і шчэ сэбэ ставіш!» [2, с. 585]. Вядомы таксама праклён: «Кагуць, шоб цебе Бог покараў, бы тую чэрэпаху. А шоб ты поўзла, як чэрэпаха» [2, с. 587]. Адмоўная ацэнка чарапахі, аднесенасць яе да небяспечных жывёл выяўлены ў вераванні, што калі чарапаха «ўкусіць, то можэ чоловек умерці» [2, с. 586]. Вобраз жалезных чарапах узнікае ў народнабіблейскіх аповедах аб прыкметах канца свету: «...Это слыхаў я, што говорылі, што будуць жэлезные пціцы летаць, жэлезные чэрэпахі поўзаць — это танкі, это самолёты...» [1, с. 477].

Чарапаха ўлучана і ў ***касмалагічны*** кантэкст. Паводле занатаваных на Берасцейшчыне легендаў, свет стаіць на чарапасе: «Чэрэпаха дзержыт. Вона круціцца, земля, круціцца, старые бабы казалі...» [2, с. 373].

Чарапасе, звязанай з чужым, хтанічным светам, прыпісваюцца звышнатуральныя ўласцівасці, мудрасць, яна можа здабыць чароўную «разрыў-траву» (што дазваляе ўключыць чарапаху ў групу такіх персанажаў, як змяя, вожык, дзяцел). Як і некаторыя іншыя гады, чарапаха нададзеная функцыяй заступніцтва хатнім жывёлам, у прыватнасці свінням і каровам — у Бярозаўскім раёне жывую чарапаху закопваюць у свінарніку, каб добра вяліся свінні; у Брэсцкай вобласці з гэтай жа мэтай чарапаху трымаюць у карыце, з якога кормяць свіней ([А ў вас чарапахі былі?] — В лугу хватало йіх. А цепэрэка нічого не бачымо. Бо на кладцы нема нічого. <...> Знахорывые людзі ловілі чэрэпаху і дэржалі ў собе в дворі, в хозяйстве вобшчэм. Коб вэлось хозяйство, коб усе шыховало в хозяйстве. [Жывую?] — Жывую, жывую. Коб усе шыховало, коб скот не пропав, коб у полі родыло ўсе. Коб родзілоса і плодзілоса»; «Як закопаеш чэрэпаху под хлевом, то свінні, кажуць, водзяцца»; «Як чэрэпаху закопаеш [жывую] дзе под порогом, дзе коровы ходзяць, кажэ, будзе весціса ў хлеве» [2, с. 585–586]).

Такім чынам, вобраз чарапахі хоць і не з’яўляецца частотным для беларускага фальклору, але мае даволі шырокае міфасемантычнае поле і надзяляецца значнай функцыянальнасцю.

**Літаратура:**

Традыцыйная мастацкая культура беларусаў : у 6 т. / Т. В. Валодзіна, А. М. Боганева [і інш.] ; ідэя і агул. рэд. Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск : Выш. шк., 2012–2013. — Т. 6 : Гомельскае Палессе і Падняпроўе : у 2 кн. — Кн. 2.– 1231 с.

Традыцыйная мастацкая культура беларусаў : у 6 т. / В. І. Басько, А. М. Боганева [і інш.] ; ідэя і агул. рэд. Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск : Выш. шк., 2008–2009. — Т. 4 : Брэсцкае Палессе : у 2 кн. — Кн. 2. — 863 с.

Традыцыйная мастацкая культура беларусаў : у 6 т. / В. І. Басько, А. М. Боганева [і інш.] ; ідэя і агул. рэд. Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск : Выш. шк., 2010–2011. — Т. 5 : Цэнтральная Беларусь : у 2 кн. — Кн. 1.– 847 с.

# СПОРАЎСКІЯ ЖАРТЫ

**13-14 ліпеня ў весцы Спорава Бярозаўскага раёна адбыўся VII абласны фестываль народнага гумару «Спораўскія жарты». У свяце прымалі ўдзел калектывы мастацкай творчасці і асобныя выканаўцы народнага гумару з усей вобласці.**

Прымала ў ім удзел і творчая дэлегацыя Брэсцкага раёна, у якую ўваходзілі работнікі ўстаноў культуры раёна і народны ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны».

Маладая, яскравая, вясёлая каманда Брэсцкага раёна паказала на фестывалі гумарыстычную праграмму «Прыбужскі Галівуд», а народны ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны» зладзіў канцерты ў Спорава і ў вёсцы Нарутавічы.

Дамоў вярталіся не з пустымі рукамі, прывезлі Дыплом трэцяй ступені.

*Ганна КУЛІКОЎСКАЯ*









# СКАРБНІЦА НАРОДНЫХ ТАЛЕНТАЎ



# Куклы и сказки Ольги САНДРИКОВОЙ

**Всегда восхищалась людьми, которые не забывают традиции своей малой и большой Родины. Ведь жизнь любого из нас будет не полной, если не помнить и не беречь прошлое.**

Вот и брестчанка Ольга Сандрикова не равнодушна к наследию. Уже многие годы в ее семье проходит самые настоящее празднование Пасхи, Коляд, «Гуканне весны»... А еще она создает удивительные куклы, пишет сказки и пьесы и через них показывает богатство белорусской культуры.

## Из детства

А началось все с детства, тогда маленькой Оли, родители, бабушки и дедушки, заложили крепкую основу — любви к Родине, ее истории и культуре. «Куклы и сказки всегда были в моей жизни. В детстве папа читал их по ве-

Выступление 1 июня в Международный день защиты детей возле Центральной городской библиотеки им. А.С. Пушкина в рамках праздника книги — «Читающий бульвар»















черам, а в воскресные и праздничные дни вместе с мамой вырезали из бумаги персонажи к сказкам, — вспоминает Ольга. — Интерес к домашнему театру привила бабушка Вера Борисовна Сковородко. Когда не было света, она зажигала свечу, созывала и усаживала нас детей на кровать возле печки. Затем начинала рассказывать Библейские истории. Это были особенные минут, которые невозможно забыть». Эти традиции Ольга перенесла и в свою семью, когда родились дочери Дарья и Наталья. И точно также, зажигает свечу, рассаживает детей, рядом с ними ставит чемодан с куклами, а затем читает с проигрыванием кусочки сюжетов из Библии или показывает спектакль. Для этого стала сочинять семейные сказки с элементами фольклора. Вскоре и дети переняли это от мамы. Играя в свои игры, они начали сами сочинять истории. Так появились в семье Сандриковых сказки про насекомых и птиц.

Готовит постановки Ольга и по народным сказкам. На день рождения Даши сделала спектакль по ее любимой сказке «Пшеничный колосок», младшей Наталье — «Коток залаты лабок». Затем у Ольги стали появляться новые постановки, а с ними и возникло название домашнего театра «Баечны крутаверць». Он уже успел порадовать маленькую и взрослую публику в детских садах, школах Бреста, на «Читающем бульваре», БрГУ имени Пушкина и даже на День письменности в Иваново.

## Они живут в «Сказке»

В центре всех спектаклей становятся куклы. Первую свою Колядничку, Ольга сделала шесть лет назад — это обрядовая кукла в современной обработке. Дальше появилась Весняночка, затем — свадебные и пасхальные зайцы, куклы-мотанки...



Шьет она кукол-персонажей к своим сказкам. Год назад у Ольги вышла первая книга «Путешествие Михалинки», в которой выразила всю свою любовь к профессии и родной магистрали, работает она на станции Брест-Северный. «Мне захотелось поведать детям о железной дороге, ее истории и тайнах, которые она хранит... Еще хотелось объяснить детям, почему родители после длительных поездок и ночных смен, не могут порой с ними поиграть. Мои дочери, когда были маленькими, тоже долго не понимали: почему, например, мама спит, когда уже утро?», — рассказывает Ольга. Чтобы лучше донести сказанное читателям, она сшила главных героинь: Михалинку и ее подружку Ангелинку.



Ожили и персонажи недавно вышедшей ее книжки «Пасхальный свет». Сказка тоже была написана неспроста. В ней главная героиня Харитинка спасает праздник Пасхи от злого колдуна. Также в сказке она описывает праздник со всеми традициями, которые моей собеседнице рассказывала ее бабушка. К слову, иллюстратором Ольгиных книг является ее дочь Даша, которая недавно закончила отделение графический дизайн в Люблинском университете Марии Кюри-Склодовской.

Еще Ольга создает кукол по книгам других авторов. Уже два года она принимает участие в фестивале «Город и книги», где в проекте «Улыбчивые чуда» представила героев из книг канадской художницы и писательницы Марианны Дюбюк «Пачтальон Мышка», финского писателя Маури Куннаса «Господин Хаккарайнен считает овец», героиню из книги Людмилы Рублевской «Дыгератып».

Примечательно, что все Ольгины куклы живут в специально отведенной для них комнате «Сказок». С ними ютятся полки с книгами, чемоданы со старыми альбомами и вещами. «Старое кресло моей бабушки заняла кукла Колядничка, с нее и связана истории этой комнаты. Однажды перед Рождеством племянница Лиза села в кресло, взяла куклу и загадала желание, которое исполнилось на Старый новый год. Вот она и заявила всем нам, что комната










волшебная!», — делится Ольга. То, что это действительно так, я убедилась лично. Зайдя внутрь, понимаешь, что поверить в чудеса можно даже взрослому. А мастерству кукольнице и фантазии можно только позавидовать. Это самая любимая комната и у родных, друзей, знакомых Сандриковых.

## Папороть-кветку нашла

В своей семье Ольга привила и любовь к праздникам. Проходят они весело с песнями, перенятыми от бабушки и куклами. Например, колядование она проводит со своей семьей для родных, друзей, знакомых с куклой Колядничкой. «Гуканне весны» — с Веснянкой и птицами, которых развешивают на дереве в своем саде. В семье Сандриковых, также принято встречать Новый Год, не зависимо от возраста, со стихами под елкой и подарками в ответ. На Рождество обязательно спектакль в чемодане с куклами, а на Ивана Купала поиск «папороть — кветки». Однажды моей собеседнице повезло: возвращаясь утром с работы после ночной смены, она увидела, что папоротник цветет... Правда, как позже оказалось, каким-то чудом в серединку куста попало семечко колокольчика, который и расцвел в самое подходящее время.

## Идея из прошлого

Также кукольница поделилась, что ее семейный театр пополнился батлейкой, которую сделал муж Алексей. Ольга сшила новых кукол: Матерь Божью Марию, Иосифа, царя Ирода, маленького Иисуса... Про батлейку она узнала от бабушки. В деревню, где та жила, когда-то приходили батлейщики и показывали спектакль, который ее очень впечатлил, а Ольгу — рассказ бабушки. Новая постановка успела порадовать родных уже в это Рождество.

На этом мастерица не собирается останавливаться: уже пишет сказки, продумывает образы для новых кукол... В этом ей хочется пожелать удачи!

*Наталья Шляжко*
*Фото автора и из домашнего архива Ольги Сандриковой*

# Ад хлеба да каравая

**Ва ўсе часы хлеб з'яўляўся «гаспадаром стала», а каравай — галоўным атрыбутам вяселля. Традыцыі іх выпякання беражліва перадаваліся з пакаленне ў пакаленне. Нягледзячы на тое, што зараз пануе XXI стагоддзе, здабыткі мінулага працягваюць сваё жыццё ў майстрытых руках сучасных хлебапёкаў. Сярод іх і брастаўчанка Ірына ЛІНКЕВІЧ.**

## Так патрэбна



Гераіня артыкула з уліку тых, каму не абыякавы традыцыі продкаў. І ўжо на працягу пяці гадоў выпякае хлеб у хатніх умовах з усёй той вытрымкай, якую выкарыстоўвалі нашы бабулі ў мінулыя часы. А любоў і пашану да «гаспадара стала» Ірына атрымала ў спадчыну ад бацькоў і бабулі: «З дзяцінства выхоўвалі ў мяне трапяткое стаўленне да хлеба, — успамінае яна. — З хлебам не гулялі, ніколі не выкідвалі... Калі неспадзявана бохан клалі ўніз скарыначкай, то абавязкова патрэбна было перавярнуць яго. На пытанне: «Чаму так?», бабуля адказвала: «Так патрэбна». І я ёй верыла, бо тут схавана такая аксіёма, якая ў жыцці павінна прымацца бяздоказна. Запоўніла гэта на ўсё жыццё, і зараз кажу сваім дзецям».

## Цэлы Сусвет

Хлеб для Ірыны Лінкевіч заўсёды быў дасканалым. Самы лепшы водараў для яе — гэта пах свежаспечанага хлеба. «Я заўсёды любіла гатаваць і частаваць, — працягвае яна роспавед. — Пякла шмат і з задавальненнем — тарты, кексы, пірагі і рознае іншае печыва. І аднойчы з'явілася жаданне спячы самой хлеб. Да гэтага часу памятаю свой першы жытні дрожджавы бохан. Гэта пазней даведалася, што жытні не пякуць на дражджах, бо атрымліваецца цеста вельмі шчыльнае, не эластычнае, і ў ім не затрымліваюцца бурбалкі паветра... Але гэта было пасля, а пакуль я шчаслівая, трымала ў руках «цэлы Сусвет» — свой першы хлеб! Напэўна, ён быў самым дарагі для мяне! І да гэтага часу я не магу спыніцца, а кожны выпечаны мною бохан — гэта радасць і натхненне. Пяку на дражджах і на заквасцы, пшанічны і жытні. Кожны хлеб — гэта сапраўдны экзамен. Бо столькі ўсяго ўплывае на цеста — і якасць мукі, вада, нават надвор'е і мой настрой».

Зараз, напрыклад, у халадзільніку Ірыны жывуць тры заквасکі: пшанічная і дзве левіта мадре — выведзеныя на садавінных дражджах. Да рэчы, рэцэпт пшанічнай заквасکі падарыла маёй суразмоўцы яе сяброўка-хлебапек, якую тая сама вывела восем гадоў таму назад. Другую закваску, левіта мадре, у Ірыны атрымалася вывесці самой на мясцовым вінаградзе. Трэцяя — гэта закваска пасла Хлеба італьянца Эцыо Марінато, якой ужо трыццаць гадоў (!), і прывезла яе Ірына з яго майстр-класа.





Вядома, што выпяканнем хлеба заўсёды было складанай справай. Ірына Лінкевіч лічыць, што ў сённяшні час гэта зрабіць лягчэй, чым некалі нашым бабулькам: «Хлеб пячы ў печчы — гэта сапраўднае мастацтва,– кажа яна. — Газавая пліта больш прадказальная. Зараз ёсць тэрмометры, цестамесы, мука розных гатункаў — трэба толькі час, цярплівасць і, безумоўна, жаданне. Раней пячы хлеб для сям'і было жыццёваю неабходнасцю. Аб добрай гаспадыні казалі: «У яе хлеб, як сонца». А сонца, як вядома, — гэта жыццё».

## З шышкамі, кветкамі, аўсом...

Аднойчы ў Ірыны з'вілася жаданне выпякчы каравай. «Я разважала: чаму мы, славяне, так лёгка адмаўляемся ад сваіх родных, набытых стагоддзямі, традыцый ва ўгоду мімалётнай модзе? Чаму з такой лёгкасцю пераймаем чужыя для нас абрады? Як могуць на вяселлі маладыя дзяліцца з гасцямі кавалачкам, няхай нават смачнага, тарта?.. Дзеляцца хлебам, дзеляць не

Доўга баялася пячы яго, — прызнаецца мая суразмоўца, — бо тут адказнасць і выклік самой сабе. Першы каравай мой прыпаў на 45-годдзе сумеснага жыцця маіх бацькоў: хацелася зрабіць для іх асаблівае свята. Вырашыла ўпотай спячы яго па ўсім традыцыям — з галінкамі-шышкамі, кветкамі, аўсом... Распытала ў старэйшых аб правілах і асаблівасцях нашага мясцовага каравая (аўт. маецца вёска Івацэвіцкага раёна, дзе нарадзілася Ірына). Атрымалася. Усе былі ў захапленні! І да гэтага часу бацькі захоўваюць адну шышку з яго».

## Гонар за роднае

Крыху пазней Ірыне Лінкевіч пашчасціла трапіць з сям'ёю ў «Санкт-Пецярбургскі Музей Хлеба». Яе вельмі ўразіла тое, што палова экспазіцый была заснавана на беларускіх традыцыях вырошчвання, апрацоўкі пшаніцы, жыта і выпечцы хлеба Палесся: «Я адчула гонар за нашых людзей і маё Палессе! Бо нам ёсць што захоўваць і перадаваць будучым пакаленням!» — дзеліцца яна. — З той пары ўсё часцей і часцей стала чытаць літаратуру, глядзець відэасюжэты, распытваць старэйшых аб тонкасцях выпякання каравая.

Напрыклад, даведалася, што яго нельга пячы маці жаніха ці нявесты. Яна толькі запрашае каравайніц і дае ім прадукты. Каравайніца можа быць толькі шчаслівая ў шлюбе жанчына, якая мае здаровых дзяцей. Сам жа каравай пяклі, як для жаніха, так і для нявесты. Галінкі на «шышкі» абавязкова бралі з пладовага дрэва. Зразумець чый каравай можна было па колькасці галінак-шышак: у нявесты — цотная, а ў жаніха няцотнае іх колькасць. Калі дзялілі яго, то абменьваліся «галінкамі-шышкамі»:з каравая жаніха аддавалі падвойную «шышку», а з каравая маладой — патройную, як сімвал таго, што сям'я жаніха папоўнілася новым жыхаром.

Каравай упрыгожвалі незамужнія дзяўчыны, увечары, перад вясельным днём. Называлі вечар «Вэночкі». І нікому яго не паказвалі: хавалі ад гасцей. Галоўны атрыбут вяселля ўносілі пад музыку, абавязкова прасілі Божага Благаслаўлення ўнесці яго ў дом, а рабіў гэта, звычайна, хросны альбо сват. Лічылася, чый каравай вышэйшы, той будзе з маладых галоўным у сям'і. Хваліліся адзін перад адным, што атрымаўся ён такім пышным і вялікім, што прыйшлося нават разбіраць печ, каб дастаць яго адтуль.

Цікавы абрад мае і гершонскі каравай (аўт. на ўвазе вёска Гершоны Брэсцкага раёну, зараз у межах горада).Там нявеста, павінна была яго «прапалоцы». На каравай насаджалі кветкі, а маладая вырывала іх і кідала гасцям. Краялі (аўт. так казалі ў мінулыя часы) яго праз тыдзень. Усё гэта суправаджалася мноствам песень, прыказак, жартаў».

### Адраджэнне мінулага

«Хачу і далей займацца выпяканнем, — дзеліцца думкай Ірына, — каб пазваць як мага больш, каб захаваць і



прымножыць тое, што нам засталося ад продкаў. Каб нашы дзеці маглі ведаць і памятаць, ганарыцца сваёй спадчынай. Абавязкова хачу зрабіць экспедыцыю па вёсках краіны, бо ўсё менш і менш людзей пра гэта памятаюць і могуць распавесці».

Прыемна, што інтарэс да хлеба і каравая адраджаецца не толькі ў Беларусі. Ірына Лінкевіч вядзе перапіску з хлебапёкамі ўсяго свету. І радуе, калі іншыя народы з павагай і захапленнем распытваюць аб нашым хлебе і караваях. Зусім нядаўна зацікавілася беларускім караваем тэлевядучая, хлебапёк Марыя Кудрашова з Масквы, і спецыяльна з гэтай нагоды наведала Брэст. Ірына падзялілася з ёю набыткамі беларускага выпякання. І болеш таго, госця з радасцю павезла наш каравай у расійскую сталіцу. «Мы нават самі часам не падазраём, што можам паказаць і распавесці. Мы маем багатую гісторыю, культуру, якую патрэбна берагчы і ёю ганарыцца!», — кажа на паследак мая суразмоўца. З гэтым нельга не згадзіцца...

*Наталля ШЛЯЖКА.*
*Фота з хатняга архіву Ірыны ЛІНКЕВІЧ*





# Узоры роднага краю

**З даследчай работы Яны Кузьміч, вучаніцы 4 класа СШ Астрамечава, (кіраунік Вольга Аляксандраўна Кажаноўская — настаўнік пачатковых класаў)**

Народнае мастацтва — няпісаная і нікім да канца не прачытаная, чароўная, мудрая кніга. Добрыя, светлыя яе старонкі разгортваюцца перад намі ў тых прадметах, якія стагоддзі суправаджалі жыццё беларускага селяніна. Гэта жыллё і мэбля, посуд і прылады працы, адзенне і прадметы побыту. З іх гісторыі, асаблівасцяў іх мастацкага дэкору — тканага, вышытага, выразанага або намаляванага — паўстае перад намі гісторыя нашага народа, нашай роднай Беларусі.

Вось і я разам са сваімі сябрамі-аднакласнікамі вырашыла паспрабаваць прачытаць кнігу гісторыі нашай мясцовасці на прыкладзе мясцовых ручнікоў.

Чаму менавіта ручнікі? Гэты прадмет мяне зацікавіў яшчэ тады, калі я прымала ўдзел разам са сваёю сям'ёю ў раённым конкурсе «Мой род — мая сям'я». Там я дазналася пра тое, што рэліквіяй у маёй сям'і з'яўляецца ручнік. Яго вышывала мая бабуля, калі была маладою. Мне стала цікава даведацца, што значаць узоры на ім, што мае продкі хацелі данесці да нас.

Яшчэ я вырашыла запытацца ў сваіх аднакласнікаў: што ведаюць яны пра ручнікі і пра тыя ўзоры, якія `ёсць на ручніках нашай мясцовасці. Таму я правяла анкетаванне.

Так мы выбралі тэму: Ручнікі маёй мясцовасці.



Яна з ручнікамі бабулі

### Гісторыя ўзнікнення ручніка

Ручнік — прадаўгаваты кавалак тканіны абрадавага, дэкаратыўнага і ўтылітарнага прызначэння. Шырыня звычайна 25-45 см, даўжыня 1-3 м. На Беларусі вядомы з глыбокай старажытнасці, са з'яўленнем ткацтва. Звесткі аб беларускім ручніку пакінула сярэднявечча. У судовых дакументах XVI–XVII стагоддзяў знайшлі вопіс пасагу, атрыманага гродзенскім «бояріном Мартіном Пашкевічем за женой своей.» Сярод іншых рэчаў там было 7 ручнікоў. У другіх вопісах

наступныя запісы: «ручнікоў 20 локоть вышіванных» «ручнікоў локоть 30» «ручнікоў простых і згребных 4 по 3 локті» «полотенце шітое літовское, да 2 утіральніка» (з кнігі В. Фадзеевай «Беларускі ручнік» Мінск «Полымя», 1994.)

## Як выраблялі і чым аздаблялі ручнікі. Тэхналогія вырабу

Ручнікі ткалі на кроснах. Кросны-драўляны станок, які прызначаўся для ткацтва. Ніткі пралі з кудзелі льну на пралках. Наматвалі на верацяно. З верацяна — на цэўку (палачку з маліны). Гэта рабілася з дапамогай сукайла. Затым цэўка ўстаўлялася ў чаўнок. Жанчына садзілася за кросны, і чаўнок у яе руках хадзіў туды-сюды па нацягнутых нітках у кроснах.Так яна ткала доўгімі зімовымі вечарамі ручнікі,коўдры або проста палатно. Палатно атрымоўвалася шэрае, і трэба было яго адбяліць. Адбельвалі попелам у жлукце (бочцы без дна), якая ўстаўлялася ў начоўкі (выдаўблены з дрэва тазік). У жлукту складвалася палатно,залівалася гарачай вадой, перасыпалася попелам і адмакала пэўны час.

## Аздабленне ручніка

Важнае месца ў аздабленні ручніка належыць вышыўцы (крыжыкам, гладдзю).

Вышыўка — спосаб упрыгожвання адзення, прадметаў інтэр'еру ўзорамі, выкананымі каляровымі ніткамі. Мастацтва вышывання развівалася разам з чалавекам і часта служыла сродкам выражэння яго адносін да навакольнага свету. Менавіта таму ўзоры вышыўкі часам сімвалічныя і звязаны з вераваннямі або абрадамі таго ці іншага народа.

У культуры славянскіх народаў вопратку расшывалі арнаментамі, якія не толькі ўпрыгожвалі яе, але і служылі засцярогамі ад зла. Невыпадкова вышыўка размяшчалася на каўняры, падоле, краях рукавоў,шчыра кажучы, менавіта ў тых месцах, дзе цела чалавека было адкрыта. Існаваў звычай развешваць вышытыя ручнікі вакол люстэркаў, вокнаў і абразоў. Вышытыя вырабы лічыліся засцярогамі, таму іх дарылі на вяселле, нараджэнне дзіцяці. У 10-12 стагоддзях вышыўку сталі выкарыстоўваць не толькі ў рытуальных мэтах, але і для ўпрыгожвання розных рэчаў (сарафанаў, фіранак, абрусаў, сурвэтак, пасцельнай бялізны). Майстрыхі вышывалі самыя розныя ўзоры, пачынаючы ад простых геаметрычных фігур і заканчваючы сцэнкамі з жыцця.

Тэхніка вышыўкі залежала ад структуры тканіны. Асноўным матэрыялам для вышывання здаўна былі льняныя палотны, якія ў залежнасці ад сыравіны, таўшчыні нітак, ступені адбельвання, шчыльнасці фактуры адрозніваліся па прызначэнні. Мабыць, таму вельмі распаўсюджанай стала вышыўка крыжыкам, дзе сцежкі размяшчаюцца параллельна ніткам асновы і куткам палатна, а таксама па дыяганалі. Такім жа старажытным з'яўляецца і спосаб вышывання процягам.

## Сімволіка арнамента

Уладзімір Караткевіч у нарысе «Зямля пад белымі крыламі» піша «Ручнікі у нас на Беларусі розныя, па мясцовасці і дужа разнастайныя. Узоры іншыя, чым у суседзяў, хаця ёсць і падобныя. Галоўная розніца — менш «раслін і кветак «».





Адной з важных характарыстык ручніка быў яго колер. Як правіла, ручнік меў два складаючыя колеры — чырвоны і белы, прычым узоры чырвоных палёў ручніка былі сіметрычныя ў адносінах адзін да аднаго. У традыцыйнай культуры славян белы колер сімвалізаваў «пераход» з аднаго стану ў другі. Чырвоны — наадварот, адпавядаў стабільнасці, спакою. Ручнік з перавагай чырвонага колеру даволі часта выкарыстоўвалі знахары для лячэння «рожы».

Чырвоны колер арнаментаў ручніка сам па сабе таксама лічыўся абярэгам, надзейнай перашкодай усяму негатыўнаму, бо параўноўваўся з жыццесцвярджальным колерам сонца.

Па розных этнаграфічных крыніцах дзяўчына пачынала рыхтавацца да замужжа з дванаццацігадовага ўзросту і павінна была сваімі рукамі выткаць ад 25 да 40 ручнікоў, якія потым шырока выкарыстоўваліся ў многіх рытуальных сітуацыях.

Любы з абрадавых ручнікоў перадваўся ад бабулі да ўнучкі. Умудроная вопытам бабуля перадавала зашыфраваныя ў геаметрычных фігурах веды аб сваім генеалагічным дрэве і яго ўбудаванасці ў свет старажытных традыцый. Ткалі ручнік звычайна ў пост. Ці перад тым, як закласці аснову для будучага «шляху жыцця», жанчына абавязкова 3 дні пасцілася. Нашы продкі мелі строгае патрабаванне — цела і душа павінны ачысціцца ад грахоў, напоўніцца святлом і дабрынёй, паводзіны стаць стрыманымі і пачцівымі, спакойным і ўраўнаважаным. Лічылася, што рукі за гэты час напаўняюцца энергетыкай Сусвету.

Арнамент — гэта ўзор, заснаваны на паўторы і чаргаванні складаючых яго элементаў. У арнаменце адлюстроўваецца характар і мастацкія асаблівасці культуры народа, які стварыў гэты арнамент, а таксама эпохі, у якой ён быў створаны. Элементы,якія рытмічна чаргуюцца, называюцца рапортамі. Цэнтральнае месца на ўзоры беларускага арнамента займае выцягнуты па вертыкалі ромб. Папарна злучаныя ромбы ўверсе і ўнізе арнамента сімвалізуюць ідэю працягу жыцця. Паміж імі і цэнтральнай фігурай праходзяць лініі з чатырох прамавугольнікаў з рысачкамі.

Наогул для арнамента характэрна прамалінейнасць абрысаў даволі буйных матываў, простасць і яснасць узораў, спакойны рытм чаргавання аднародных элементаў, сіметрыя малюнка.

Мы ведаем з урокаў, што жыццё ў беларусаў было «горкае». Яны, працалюбівыя, цярплівыя, не ўмелі абараніць сябе ад злых людзей, таму марылі пра шчаслівую долю, якую ім падаруюць сілы нябесныя. Свае мары і надзеі яны сімвалізавалі ў арнаменце на ручніках і на сваім адзенні.

## Выкарыстанне ручнікоў у мінулым

Здаўна традыцыя прадугледжвала выкарыстанне ручніка практычна ва ўсіх абрадах і звычаях. Без яго не абыходзілася ні адно вяселле, ён прысутнічаў пры нараджэнні чалавека, ручнік быў і на праводзінах у апошні шлях. Складаныя разнастайныя функцыі абрадавага ручніка пакрыты таямніцай. У ім адчуваецца дыханне далёкіх эпох, свядомасць і звычаі колішніх пакаленняў. Шмат стагоддзяў выкарыстоўвалі беларусы ручнік. Паступова, год за годам, стагоддзе за стагоддзем выпрацоўваліся характэрныя асаблівасці афармлення беларус-

кага ручніка. Узоры ручніка — гэта зашыфраваны аповед жыцця людзей, жывёл, прыроды, кахання. Што ні ўзорто сімвал. Сімвалы ўраджаю: Спрэчкі, Багач. Сімвалы памяці: дзяды, любоў і павага да продкаў. Сімвалы прыроды: Сонца, Зямлі, Месяца. Сімвалы жыцця на Зямлі: Чалавека, Маці-Матулі, Святога дрэва або дрэва Жыцця. Сімвалы святаў: Масленіца, Вялікдзень, Купала.

Ручнік цесна звязаны з жыццём чалавека з моманту яго нараджэння і да моманту яго рытуальнай «пераправы» ў мір продкаў. Акрамя таго, ён суправаджаў чалавека ў паўсядзённых дзеяннях з самай раніцы і да позняга вечара. Усходнія славяне раздзялялі гэты цудоўны твор чалавечых рук на 4 тыпы, кожны з якіх меў сваю сферу выкарыстання. Самым простым па вырабе лічыўся ручнік-«уціральнік», якім у паўсядзённым жыцці выціралі рукі і твар. Як правіла, ён не меў арнаментальнага ўпрыгожвання.

Наадварот, самым высокім статутам надзяляўся ручнік-«набожнік», якім упрыгожвалі чырвоны кут хаты, накрываючы абразы з выявай Багародзіцы, Ісуса Хрыста ці найбольш шануемых святых, напрыклад, Мікалая-Цудатворца. У выраб набожнікаў майстрыха ўкладвала ўсе сваё майстэрства, цярпенне, творчыя здольнасці, сваю душу.

Яшчэ адным відам ручнікоў была «намітка» — своеасаблівы галаўны ўбор беларускіх жанчын. Намітку насілі замужнія жанчыны. Яе павязвалі паверх чапца самымі разнастайнымі спосабамі. Часта намітку надзявалі на абручык, канцы наміткі пры гэтым ахіналі шыю і падбародак, спускаючыся на плечы і грудзі. Апрача практычнай, намітка выконвала абрадавыя функцыі. Маладая жанчына пасля вяселля мяняла прычоску і надзявала намітку, старанна хаваючы пад яе валасы; паказацца на людзях з непакрытай галавой, тым больш з распушчанымі валасамі, лічылася непрыстойнасцю.

Ручнікі былі абавязковым атрыбутам у вясельных, радзінных, пахавальных абрадах. З'явіцца немаўлятку на свет дапамагала бабка-павітуха. Як толькі яна ўваходзіла ў хату (часцей за ўсё жанчына нараджала ў бані), яна вешала каля ўваходу ці ў галавах парадзіхі ручнік, у арнаменце якога былі выявы Маці-радзіцельніцы, берагіні ці парадзіхі і дзіця. Адразу пасля нараджэння бабка-павітуха амывала немаўлятка, спавівала яго ў тонкі ручнік і клала на стол. Сімволіка абрадавага дзеяння даволі празрыстая: у сям'і з'явіўся яшчэ адзін «рот», і яго тут жа «прывязвалі» да таго сакральнага месца, за якім па некалькі разоў за дзень збіралася ўся сям'я. Менавіта таму, перад тым як блаславіць дачку на шлюб, бацька тройчы абводзіў яе вакол стала (рытуальнае развітанне з сям'ёй), апаясаўшы спецыяльным ручніком. Ручнікамі перавязвалі пары хросных бацькоў жаніха і нявесты, якія выконвалі пачэсныя абавязкі сватоў. З хлебам-соллю, які быў вышыты на ручніку, праводзілі і сустракалі маладых на парозе хаты. Ручнік, на якім маладыя стаялі ў храме падчас вянчання, надзяляўся самым высокім абрадавым статутам. Яго захоўвалі доўгія гады, як сімвал шчаслівага сямейнага жыцця.

Ручнік — гэта не проста кавалак палатна, не анучка. Гэта істота, у ім — магутная энергетыка. Нашы продкі рабілі ручнікі з нейкім пасылам. Напрыклад, калі вёсцы пагражала няшчасце, хвароба, жанчыны збіраліся ўсім светам і з заходу сонца да світання ткалі ручнік — абыдзённік. І людзі расказваюць, што тады праблемы абыходзілі іх.





Ручнік — рэч глыбока сімвалічная, шматзначная. Вышываная, узорыста вытканая тканіна здольная выклікаць у нас шмат пачуццяў і асацыяцый. Выраблены паводле законаў мастацтва, ручнік упрыгожвае паўсядзённасць і адначасова застаецца сімвалічным напамінам аб нябачных сувязях, што знітоўваюць асобнага чалавека з Богам, ягоным родам, продкамі.

Самым галоўным і найбольш значным сімвалічным сэнсам ручніка з'яўлялася вера ў тое, што ён з'яўляецца ўвасабленнем дабра і здольны забяспечыць чалавеку і яго сям'і шчасце, дабрабыт, здароўе.

## Практычная работа

Паслятаго, як мы пазнаёміліся з гісторыяй узнікнення ручнікоў на Беларусі, вырашылі больш паглыбленна даследаваць ручнікі нашай мясцовасці. Нас цікавіла тэхніка вышывання, узоры, месца ўзнікнення.

Дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Лук'янюк праводзіць экскурсію






Паездка ў раённы Дом рамёстваў в. Астрамечава

Адным з першых мы вырашылі наведаць раённы Дом рамёстваў у весцы Астрамечава. Яго загадчыца, правяла для нас вельмі цікавую экскурсію. Ад яе мы дазналіся, якія ручнікі былі распаўсюджаны на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Нам растлумачылі сэнс тых узораў, якія былі асноўнымі на ручніках нашых продкаў. Там прадстаўлена многа ручнікоў, якія былі вышыты мясцовымі майстрыхамі Вабішчэвіч Н.М., Агіевіч Т.Ф, якія перадалі іх на выстаўку.

Асобае месца займаюць абрадавыя ручнікі — Купальскія, Вясельныя, Дажыначныя, ручнікі з матывамі Вялікдня. На гэтых ручніках мы ўбачылі асаблівыя ўзоры, лініі, сімвалы, якія апавядаюць нам пра звычаі нашых продкаў. Нам вельмі спадабалася гэта экскурсія, і яна стала першай кропкай нашага даследвання.

Далей разам з настаўніцай Вольгай Аляксандраўнай мы вырашылі даведацца ў дзяцей нашага класа, а ці есць у іх сем'ях ручнікі, якое значэнне яны маюць і адкуль узніклі.

На класную гадзіну большая колькасць дзяцей прынеслі свае ручнікі,

# Ручнікі майго класа









дэманстравалі іх, расказвалі вельмі цікавыя гісторыі пра іх узнікненне, прызначэнне, выкарыстанне. Напрыклад, ад Насці Дарашук мы даведаліся, што ручніку, які яна нам прадэманстравала, болей за сто гадоў. Ён перадаецца ў іх сям'і з пакалення ў пакаленне. Яшчэ нас уразілі ручнікі Хоміч Аляксандры. Хоць на іх быў не беларускі арнамент, але яны здзівілі сваёй прыгажосцю, буйствам фарбаў. Усе гэтыя ручнікі вышывала яе бабуля, Хоміч Зінаіда Клімаўна. Як аказалася, бабуля Сашы была вялікай майстрыхай і ў яе хаце многа чаго можна было пабачыць. І мы вырашылі яшчэ наведаць Сашыну бабулю. На працягу ўсей класнай гадзіны мы захоплена слухалі сваіх аднакласнікаў і дзівіліся прыгажосці мясцовых ручнікоў.

Як я ўжо казала, на класнай гадзіне мы вырашылі наведаць бабулю нашай аднакласніцы, Хоміч Зінаіду Клімаўну. Калі мы ўвайшлі ў хату, то вельмі ўразіліся колькасцю вышытых вырабаў(дадатак 4). Іх было вялікае мноства і зроблены яны былі ў розных тэхніках. Яна пазнаёміла нас сасваёй выставай работ, якія вышыла для ўпрыгожвання сваёй хаты (там было многа карцін, ікон розныя накідкі і т.д), некаторыя ручнікі яна вышывала на розныя святы. Сярод ручнікоў было многа такіх, якія былі вышыты не толькі ніткамі чырвонага колеру, але і іншымі колерамі. Гэта гаворыць аб тым, што на нашай тэрыторыі жывуць людзі розных нацыянальнасцей, і іх культура паўплывала на нашу культуру і надала ёй больш фарбаў і адценняў. Нам вельмі там спадабалася, і мы яшчэ больш захапіліся вышыўкай, як народным рамёствам.

## Тлумачэнне ўзораў

Пасляўсягя, што мы бачылі, можна выдзеліць многія ўзоры, якія паўтараліся на ручніках і даць ім тлумачэнне. І восьяны (дадатак 7).

Сонца — гэта аснова ўсяго існуючага. Без сонечнага свету і цяпла не было бы жыцця чалавеку. Ствараючы ўзор,беларуская майстрыха адлюстроўвала жыватворнае сонца ў выглядзе ромба з праменнямі на свет. Ромб сімвалізаваў Сонца па той прычыне, што ў ткацтве, як і ў традыцыйнай вышыўцы крыжам, тэхнічна немагчыма выткать або вышыць кола (круг). Народ верыў, што сонейка заўсёды перасільвала цемру ночы, і ў гэтым мы будзем чэрпаць веру, што ўсё светлае, добрае, справядлівае пераможа зло.

У беларускіх узорах самымі улюблёнымі былі знакі, прысвечаныя Сонцу: круг, крыж (святло, што разыходзіцца на ўсе чатыры бакі). Круг з крыжам, кола з шасцю спіцамі, якія з цягам часу пертварыліся ў «зорачкі» са шматлікімі варыянтамі. Асноўны колер старых узораў — чырвоны, колер самага Сонца, колер агню, цеплыні, чалавечай крыві. І гарэлі знакі Сонца на белым полі палатна. Белы — гэта дзённае святло. Белы колер — гэта колер малака, вады, што наталяе смагу, колер чысціні. А спалучэнне белага і чырвонага паўстала як сімвал жыцця, шчасця, працвітання. Эпіпэт, з якім звярталіся нашы продкі да Сонца — «краснае». Краснае — значыць прыгожае. Сонца было для іх сімвалам не толькі дабра, але і характва.

Слова «узор» звязана з Сонцам, з небам, зарою. Узор, зоры, зара, зрок — роднасныя словы. Яны паходзяць ад стараславянскага слова «зорок", што азначае погляд, воблік, сонечны прамень.



Купальскі ручнік



Ручнік на Вялікдзень



Дажыначны ручнік

Ткачыхі звяртаюцца да сонца, кааб яно дало дождж і не паліла так моцна зямлю. Узор, які спалучае сімвалы зямлі і сонца, шырока вядомы ў беларускім ткацтве. Калісьці яго можна было бачыць у кожнай сялянскай хаце, паколькі ён лічыўся цудадзейным. Называюць яго па-рознаму: Жыццё, Вясна, Ярыла.

Ромб з адросткамі — прамянямі — Сонца. Такі ж ромб, але прамянямі накіраваны ўнутр,— Зямля. Каб выказаць ідэю росквіту прыроды, жыцця сімвал Сонца змяшчаецца ў сімвал Зямлі.

«Васьміраг», ці «Васьмірогая зорка»- сімвал мужчыны, агню, вогнішча, мужчынскага пачатку.

Продкі — беларусам здаўна было характэрным глыбокая павага да

Вясельны ручнік



продкаў. І гэты сімвал азначае, што памяць аб продках будзе жыць, пакуль жыве іх род.

Сям'я — аснова існавання любога грамадства. Нашы продкі гэта вельмі добра разумелі і ўключалі ў арнамент вышыўкі сімвал сям'і. Гэта чатыры крыжападобныя разеткі з агульным цэнтрам у рамцы. Арнамент нагадвае кветку з чатырма лісцікамі (дзецьмі), якія падтрымліваюцца і ўмацоўваюцца цэнтрам (бацькамі).

Дрэва — сімвалізуе народнае Дрэва Жыцця. Гэта своеасаблівы радавод. Яго галінкі — розныя пакаленні сям'і. Галінкі, звернутыя ўверх, абазначаюць малітву небу, а апушчаныя ўніз — благаславенне роду. Кветкі, якімі заканчваецца галінка абазначаюць дзяцей.

Каханне — пара галубкоў з'яўляюцца сімвалам кахання для беларусаў і выражаюць самыя тонкія адценні пачуцця. Калі галубкі паказаны ў адным накірунку, гэта азначае пачатак кахання, заляцанне хлопца да дзяўчыны, калі яны звернуты адзін да аднаго — то каханне ў росквіце і пажаданні вечнай узаемнасці. Калі галубкі глядзяць у розныя бакі — то гэта азначае, што каханне закончылася.

Берагіня — персанаж беларускага фальклору, аберагае маці і дзіця. Вышывалася ў выглядзе жаночай фі





гуркі з крыжыкам ці квадрацікам у раёне галавы або на грудзях. Калі рукі складзены на ўзроўню жывата, то такі сімвал абазначаў, што жанчына чакае дзіця.

Маці (Маці-Радзіцельніца). Вобраз Маці — сімвал любові і міласэрнасці сустракаецца ў дэкоры тканых і вышываных ручнікоў вельмі часта. У яго аснове — васьміканцовая зорка, якая абазначае чалавека, асобу. Гэты сімвал падкрэслівае веліч маці, яе асаблівую ролю ў прадаўжэнні роду. У народзе нейкім чынам звязваюць між сабою вобраз маці і адлюстраванне дрэва жыцця. Магчыма, тут ёсць нейкая сувязь прамаці Евы з дрэвам пазнання дабра і зла.

Жыццё — каб паказаць ідэю жыцця, росквіту і адзінства ўсяго існуючага, сімвал памяшчалі ўнутры зямнога. Называюць гэты элемент па-рознаму: «Жыццё, Вясна, Ярыла». Беларусы лічылі, што ў ім скрыта вялікая таямніца жыцця, і стараліся мець у кожнай хаце.

Хлеб — аснова багацця сям'і. Без хлеба цяжка ўявіць сабе штодзённае харчаванне і сучаснага беларуса. Гэты сімвал напамінае аб тым, якой цяжкай працай даставаўся хлеб чалавеку, і аб неабходнасці паважлівых адносін да яго.

Канечне гэта не ўсе ўзоры , якія сустракаюцца на беларускіх ручніках, але мы ўзялі толькі самыя асноўныя.

## Узоры ў нашым жыцці

Пасля правядзення ўсіх даследванняў, пазнаёміўшыся з узорамі ручнікоў і тэхнікай іх выканання, на ўроках працоўнага навучання мы паспрабавалі сябе ў ролі майстроў па вышыўцы (дадатак 5). Спачатку мы спрабавалі вышываць проста крыжыкам, а потым з дапамогай настаўніцы вышылі найбольш простыя ўзоры і змясцілі іх ў сваім тлумачальным слоўніку, які назвалі «Узоры роднага краю»(дадатак 8). Гэты слоўнік і стаў вынікам усёй нашай работы.Ён зроблены нашымі рукамі, а таму мае асаблівую значнасць для нас.

Напрыканцы ўсёй работы я правяла яшчэ адноанкетаванне (дадатак 8). Яно паказала, што дзеці ўжо засвоілі свое асаблівасці мясцовага ручніка і могуць растлумачыць узоры на ім.

## Заключэнне

Я з вялікім задавальненнем працавала над работай. Мне дапамагалі мае аднакласнікі, настаўніца Вольга Аляксандраўна, жыхары вёскі, загадчыца Дома рамёстваў в. Астрамечава. Я зразумела, што трэба вывучаць, даследаваць спадчыну роднага краю: народныя песні, паданні, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, таму што гэта жыватворная крыніца, якая дае жыццё нашай сучаснасці, нашай будучыні. Пад час даследаванняасноўную інфармацыю аб абрадавым выкарыстанні ручніка атрымала шляхам наведвання выстаў,знаёмства з ручнікамі сямей нашага класа. Многія людзі захоўваюць ручнікі, берагуць іх. Нам паказвалі іх, а мы сфатаграфавалі. Пра многія ручнікі жанчыны расказвалі цікавыя і павучальныя гісторыі. І так здарылася, што канец нашага даследвання супаў з пачаткам года Малой Радзімы, які абвешчаны быў у нашай краіне прэзідэнтам А.Р. Лукашэнка.

Даследаванне дало магчымасць яшчэ раз дакрануцца да духоўнай спадчыны, да народных традыцый і звычаяў свайго народа, усвядоміць непарыўную сувязь беларускага ручніка з духоўнай культурай беларусаў.

У выніку даследавання я зрабіла для сябе вывады:

— створаны па законах мастацтва ручнік упрыгожвае не толькі паўсядзённы быт, але і з'яўляецца сімвалічным напамінаннем пра нябачныя сувязі, якія злучаюць кожнага чалавека з Богам, яго родам, продкамі;

— узоры вышытых і вытканых ручнікоў — гэта зашыфраваная аповесць пра жыццё народа, прыроды, людзей; кожны ўзор сімвалізуе дабро, праўду, прыгажосць, любоў, гонар за чалавека і яго працу, кожны ўзор мае сваё прызначэнне і сваю назву.

Па выніках усёй працы разам з настаўніцай мы зрабілі свой тлумачальны слоўнік «Узоры роднага краю», які можнавыкарыстоўваць на класных гадзінах, пры правядзенні выхаваўчых мерапрыемстваў, уроках працоўнага навучання, чалавек і свет, гісторыі Беларусі. Карыстаючыся гэтым слоўнікам, можна даведацца аб сапраўдным жыцці нашых продкаў, прачытаць іх гісторыю.

Праходзяць гады, мяняюцца густы, на змену рукам чалавечым прыходзяць машыны, створаныя тымі ж рукамі... Але пакуль побач з чалавекам будзе жыць пачуццё прыгожага, імкненне да натуральнага, сапраўднага, будзе жыць ручнік, бо спрадвечнае застаецца вечным.

Працы Зінаіды Клімаўны Хоміч





**Літаратура:**


1. М. С. Кацар / «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка.» — Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 1996.
2. В Лабачэўская / «Повязь часоў — беларускі ручнік» — Мінск : Беларусь, 2002.
3. В. Я. Фадзеева / Беларускі ручнік. — Мінск, 1994.
4. В. Я. Фадзеева / Беларуская народная вышыўка. — Мінск, 1991.
5. В. Бухавец / Крылы льняныя — ручнікі. — Настаўніцкая газета, 2005.

Інтарнэт-рэсурсы:

Разнообразие белорусского орнамента и его значение http://ethnoboho.ru

Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка http://jivebelarus.net






# Літаратурная сядзіба



# О кружке литературного творчества «Вдохновение»

**Кружок литературного творчества «Вдохновение» от ГУО «Центр творчества детей и молодежи Брестского района», который работает на базе средней школы д. Чернавчицы, отметил в прошлом году свой десятилетний юбилей.**

За это время в кружке сменилось не одно поколение интересных творческих ребят, которые пишут стихи, рассказы, сказки, эссе, создают работы публицистического жанра. Среди выпускников кружка есть те, кто навсегда связал свою судьбу с журналистикой. Это Александра Волчецкая и Анастасия Лебедич.

Абсолютное большинство ребят, занимавшихся в кружке, получили высшее образование или сейчас учатся в вузах Беларуси, России, Польши. Занятия в кружке «Вдохновение» помогли им расширить свой кругозор, развить творческие и коммуникативные способности.

Сейчас в кружке занимаются очень хорошие ребята, увлеченные творчеством. Они очень разные по возрасту, но их объединяет любовь к художественному слову. Это гордость кружка Даша Шульжик, Ариша Зиновик, Фаина Филанович, Устин Живула, Саша Андреюк, Катя Радионова, Ангелина Пилютик, Саша Прокопчук, Таня Кучко.

Участники кружка хорошо учатся, уверенно держатся на сцене, они отличные рассказчики. А еще они отличные ребята, настоящие друзья, которые всегда придут на помощь друг другу и другим людям.

Участники кружка пишут о родном Прибужье, о малой своей Родине — деревне Чернавчицы, о школе, о близких и родных людях — обо всем, что волнует их. Они любят родную природу, и большая часть их работ написана о красоте родного края. Многие из ребят активно участвуют и побеждают в литературных конкурсах, награждены грамотами и дипломами за свои работы, публикуются в газетах и журналах.

Участникам кружка нравится брать интервью, общаться с известными в Брестском районе людьми, ветеранами Великой Отечественной войны. Тема Великой Отечественной войны, Великой Победы, история родной семьи остаются ведущими в творчестве ребят.

Руководит кружком Зоя Ивановна Федченкова — опытный педагог, отличник образования Республики Беларусь.





*Александра ПРОКОПЧУК*

# Спасатель

Павла Васильевича Иванова знают все. И когда он вечером после работы возвращается домой, все соседи приветливо здороваются с ним. Мужчины уважительно пожимают руку: «Здравствуй, Павел Иванович!» Мальчишки кричат: «Привет, дядя Паша!» А бабушки на скамейке обязательно скажут: «Наш Паша — герой!» Да и в городе имя Павла Петровича известно очень многим. А начиналось все так...

Рос Пашка, как попросту называли его друзья, добрым и хорошим парнем. И друзей у него было много — такие же дружелюбные и озорные ребята. Учились, спортом занимались, музыку слушали — все как у всех в этом возрасте.

И была у каждого своя затаенная мечта. Кто программистом хотел стать, кто строителем, кто летчиком. А Пашка очень хотел стать спасателем. С малых лет отец мальчика учил: « Нужно помогать людям, делать добро». Так парень и вырос. Всегда придет на помощь. Попала кошка в водосточную трубу — спас. Провалились мальчишки, играя в хоккей, под лед — первым бросился спасать. А когда вечером загорелся соседский дом, вызвал спасателей, а сам помог дедушке выбраться из огня. Стали после этого случая называть парня уважительно Пашей, а друзья — Спасателем. И если даже возникали сложные ситуации, сразу говорили: «Надо Пашу звать на помощь!»

После окончания школы Пашу забрали в армию. Эти два года многому научили парня, он приобрел превосходный опыт. Вернулся сильным, возмужал, настоящий богатырь. И вот пришло время находить свое место в жизни. Выбирать не пришлось, ведь мечта так и осталась неизменной. И парень, пройдя дополнительные курсы подготовки, поступил в пожарную часть №1 города Минска. За обучение молодого и неопытного юноши взялись командиры части. И стал Павел хорошим специалистом, настоящим спасателем. И лесные пожары ликвидировал, а тушить такие пожары очень трудно и опасно.

И дома, к сожалению, горели, и хозяйственные постройки.

Однажды летним утром, Павел Васильевич заступал на смену. И тут зазвучал телефон... Вызов. Какая-то женщина в панике пыталась объяснить, что произошло. Понять было сложно, на заднем плане кричали люди. Адрес записан, надо ехать. В течение минуты расчет уже был готов и направлялся к месту происшествия. Тишину городских улиц нарушал пронзительный вой серен.

На место прибыли вовремя. Получив сведения от людей и развернув рукава, начали тушить пламя.

Паша и ещё несколько спасателей приняли решение осмотреть здание на наличие людей. Молодой спасатель пошел первым. Всего пару секунд и... прогремел взрыв. Почему никто не предупредил, что внутри были газовые баллоны?!

Павел Васильевич серьезно пострадал. Ему оторвало ногу, но он чудом остался в живых. Год реабилитации и мужчина пришел в себя. Теперь, по согласованию обеих сторон, он вынужден был уйти на легкую службу. Павел Васильевич принимает вызовы только по телефону. Но даже несмотря на это, он остается уважаемым и ценным сотрудником ПАСЧ №1 города Минска.

В семье единственный я сын!
Мне бы друга иль подругу –
Я тогда скучать не буду!
Днем я весело скачу
И друзей найти хочу.
Тут к нему пошел вожак –
Конь он старый — Ветром звать,
Говорит: «У меня есть внучка,
С виду маленькая тучка,
Хочет она друзей найти...
Можешь к ней ты подойти...»
Подошел единорожик...
Лошади кричат:
— О, Боже!
Снова весел единорог,
Подругу найти себе он смог.

**К нам приходит Новый год!**

Вот и кончился ноябрь.
Осень вдруг от нас ушла.
Не успела и начаться,
А уж от нее нет и следа!

Раньше золотом блестели
Леса, парки и сады!
А теперь все опустело!..
На деревьях нет листвы.

Все-таки мне осень жалко:
Рановато так ушла,
Подарила урожай нам,
Счастье, радость принесла!

Я смотрю в окно и вижу:
Тихо-тихо снег идет.
Так же тихо, еле слышно
К нам приходит Новый год.

Тут вскочила я со стула:
Скоро праздник! Ну и ну!
И уже пора подарок
Делать папе моему!

**Ну и ну!**

Шесть девчонок-пятилеток
Сидят и кушают конфеты.
Вот это банда! Ну и ну!
Я у них теперь в плену!
Я мальчишка невысокий
И не толстый, и не тонкий.
Очень робкий я мальчишка,
В уголке читаю книжку.
Раз пошел я прогуляться,
Стали они в меня кидаться.
И конфеты, и печеньки,
И даже пирожки с вареньем!
Девчонка в розовой юбчонке
Меня закутала в пеленки.
Мне восемь лет! Ну, отпустите!
Спасите! Люди, помогите!
А девчонка с рыженькой косичкой
И игрушечной лисичкой
Стала меня обзывать,
Очень сильно ударять.
Ну, а две близняшки
Все сказали тете Глаше.
Тут девчонок наказали,
А я тете Глаше благодарен!

**Заветная тетрадка**

Есть у меня заветная тетрадка...
Я открою ее и ручку возьму,
Напишу рассказик или даже сказку.
Но про что писать, я что-то не пойму.
Может, напишу я про царевну Несмеяну,
Или про Рыбку золотую написать?
Думаю все я, никогда не устану.
Спрашивает мама: «Так ты ляжешь спать?»
«Эврика!» — воскликнула я
и краски взяла.
Нарисовала солнце, зеленую травку,
У крыльца домишки нарисовала я кота.
Вот тут лежит собака,
А акулу я сотру!





# Старонкі гісторыі



# Даследчык Палесся і пісьменнік з вёскі Шчытнікі

**Адным з тых, чыё імя сярод ураджэнцаў берасцейскага Палесся, плённа працаваўшых дзеля нацыянальнага адраджэння і развіцця навуковых ведаў, быў Барыс Юльянавіч Альхоўскі (1906–1944), ураджэнец вёскі Шчытнікі.**



Барыс Юльянавіч Альхоўскі, 1926

Для шырокага кола чытачоў яно было толькі нядаўна адкрыта вядомым даследчыкам-краязнаўцам Аляксандрам Ільіным. Яго кніга «Барыс Альхоўскі — пісьменнік-эсэіст, спявак і даследчык Палесся» выйшла ў Пінску ў 2017 г. першым выпускам новай серыі «Палеская бібліятэчка часопіса «Гістарычная брама». Унікальныя дакументы, упершыню ўведзеныя аўтарам выдання ў навуковы зварот, дазволілі яму не толькі рэканструяваць факты жыццядзейнасці Барыса Альхоўскага, але і стварыць суцэльны малюнак інтэлектуальнага асяроддзя і атмасферы, у якой праходзіла творчае жыццё публіцыста, даследчыка і грамадскага дзеяча.

Жыццё продкаў Барыса Альхоўскага па бацькоўскай лініі было звязана з сучасным Брэсцкім раёнам. Як паведамляе Аляксандр Ільін, дзед пісьменніка — праваслаўны святар Пётр Іванавіч Альхоўскі быў адным з тых, каго пасля задушэння паўстання 1863–1864 гг. накіроўвалі для русіфікацыі палешукоў. З 1880 г. ён служыў святаром у Матыкальскай царкве, а з 1903 да 1915 г. — святаром у сяле Вельямовічы. Сын Пятра Іванавіча Альхоўскага — Юльян Пятровіч Альхоўскі, народжаны ў сяле Матыкалы, таксама быў праваслаўным святаром: з 1904 г. і амаль да пачатку Першай сусветнай вайны ён быў настаяцелям Шчытнікаўскай царквы. У 1906 г. у сям'і Юльяна Пятровіча Альхоўскага нарадзіўся сын Барыс. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны ў 1915 г. па распараджэнню расійскіх вайсковых уладаў сям'я святара, як і большасць мясцовых жыхароў, вымушана была пакінуць вёску і выехаць у глыб Расійскай імперыі «у бежанцы». Пасля заканчэння вайны ў вёску Шчытнікі яны больш не вярнуліся — святар Юльян Пятровіч Альхоўскі атрымаў прыход у м. Антопаль Драгічынскага павета.

Барыс Альхоўскі навучаўся ў Брэсцкай рускай гімназіі, пасля заканчэння якой працягваў адукацыю на юрыдычным факультэце Віленскага універсітэта ім. Стэфана Баторыя, а ў далейшым — на філасоўскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта ім. Юзэфа Пілсудскага. Ужо ў студэнцкія гады, калі Барыс Альхоўскі пачаў друкаваць свае першыя артыкулы ў розных перыядычных выданнях, яскрава выявіўся яго талент публіцыста.

Вялікім захапленнем Барыса Альхоўскага стала вывучэнне Палесскага краю. З пачатку 1930-х гадоў ён быў супрацоўнікам Архіву гісторыі ўніі 1596 г., створанага ў Львове з мэтай збору матэрыялаў па гісторыі праваслаўнай і грэка-каталіцкай цэркваў і захавання помнікаў мінулага беларускіх і ўкраінскіх зямель. Для папаўнення фондаў архіва яго супрацоўнікі накіроўваліся ў экспедыцыі па ўкраінскіх і беларускіх землях у пошуках рознага архіўна-гістарычнага матэрыялу — прадметаў даўніны, дакументаў па царкоўнай гісторыі, твораў мастацтва, абразоў, старажытных кніг. У падарожжа па Палессю і Валыні быў накіраваны і Барыс Альхоўскі.

Падчас адной з такіх вандровак, якая адбылася летам 1931 г., яго шлях пралягаў па тэрыторыі сучаснага Драгічынскага раёна — даследчык пабыва у Хомску, Здзітава і ваколіцах. У 1933 г. ён падарожнічаў па Століншчыне, пабываў у г. Высоцк (сёння сяло на тэрыторыі Дубровіцкага раёна Роўненскай вобласці Украіны) і с. Церабежоў, дзе наведваў мясцовыя царквы і сустракаўся з іх настаяцелямі.

Цікавыя нататкі Барыса Альхоўскага аб гэтай экспедыцыі змешчаны ў кнізе Аляксандра Ільіна. У зборы каштоўнага гістарычнага матэрыялу даследчыку неаднойчы дапамагалі мясцовыя святары і простыя сяляне. Вынікам шматлікіх вандровак па Палескаму краю і Валыні былі дасланыя ў Львоў багатыя пасылкі з сабранымі архіваліямі — старадаўнімі кнігамі (царкоўнымі služэбнікамі і інш.), абразамі, сотнямі адзінак дакументаў, што тычыліся гісторыі цэркваў (царкоўныя метрыкі, царкоўныя кнігі прыходаў і расходаў, вопісы цэркваў), дакументамі з сямейных архіваў, рознымі старымі рэчамі і археалагічным матэрыялам (знойдзенымі фрагментамі старажытнай керамікі, крэмніям і інш.), фотаздымкамі цэркваў і рэчаў, якія мелі гістарычную вартасць (іканастасы, абразы).

Як распавядае Аляксандр Ільін, у 1933 г. з сяла Чэрск, што знаходзіцца на паўднёвым захадзе сучаснага Брэсцкага раёна (Дамачаўскі сельсавет), у Архіў гісторыі ўніі Барыс Альхоўскі прывёз старадаўні палесскі абраз «Распяцце з прадстаячым», які датаваны першай паловай XV стагоддзя. Хутчэй за ўсё, многае з таго, што было знойдзена тады супрацоўнікамі архіву, з цягам часу было б папросту знішчана і не дайшло б да нашых дзён, калі б не трапіла ў рукі тых, хто дакладна ведаў вартасць гэтакіх рэчаў. Не трэба нават і тлумачыць, якую каштоўнасць уяўляе такі гістарычны матэрыял у якасці крыніцы для вывучэння Палескага рэгіёну. Сёння ка-

лекцыя былога Архіву гісторыі ўніі захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Львове.

Яшчэ адным з вынікаў вандровак Барыса Юльянавіча па Палессю былі яго цікавыя рэпартажы, змешчаныя ў розных перыядычных выданнях. У гэтых рэпартажах аўтар выявіў сябе і як выдатны краязнаўца, які адкрываў чытачам сувязь паміж сучаснасцю і мінулым, і як выдатны публіцыст, валодаючы бліскучым журналісцкім стылем. Безумоўна, даследчыцкая і пісьменніцкая праца, звязаная з вывучэннем і зборам помнікаў палескай даўніны, спрыяла творчаму станаўленню Б. Альхоўскага.

Перабраўшыся з Львова на жыццё ў Варшаву, Б. Альхоўскі працягваў актыўную творчую, пісьменніцкую дзейнасць. Акрамя таго, браў актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці варшаўскіх украінцаў. Свой лёс з украінскім нацыянальным рухам Б. Альхоўскі звязаў яшчэ ў юнацтве, калі падчас навучання ў гімназіі спрычыніўся да дзейнасці ўкраінскага таварыства «Просвіта на Палессі», якое разгарнула актыўную дзейнасць у Брэсце над Бугам у міжваенны час. З дакументаў, выяўленых Аляксандрам Ільіным, бачна, што ў шэрагі ўкраінскага нацыянальнага руху Б. Альхоўскага прывялі «уласнае маральнае абурэнне ад таго, што бачыў на Палессі і Валыні» і перакананне, што палепшыць становішча можа толькі ўласная дзяржава. «Паляпшэнні без Дзяржавы — утопія» — лічыў ён. Адначым, аднак, што стоячы на грунце стварэння ўкраінскай дзяржаўнасці, Б. Альхоўскі не мог не мець адпаведнага стаўлення і да ідэі беларускай дзяржаўнасці. Доказам таму з'яўляецца адзін з надрукаваных ім артыкулаў, які прысвечаўся памяці выдатнага беларускага грамадскага дзеяча, публіцыста, піянера беларускага нацыянальнага руху, аднаго з заснавальнікаў першай беларускай палітычнай партыі, а таксама першай беларускай газеты «Наша Доля», а потым і «Наша Ніва», вакол якіх гуртаваліся дзеячы беларускага нацыянальнага руху, Івана Луцкевіча.



Пакроўская царква
у вёсцы Малыя Шчытнікі





У Варшаве Б. Альхоўскі прымкнуў да літаратурнай групы ўкраінскіх пісьменнікаў і стаў супрацоўнікам літаратурнага часопіса «Мы», адным са стваральнікаў якога і рэдактарам быў яго сябра з юнацтва, з якім калісьці разам вучыўся ў брэсцкай гімназіі, пісьменнік-празаік і журналіст Андрэй Крыжаноўскі. У часопісе «Мы», дзе друкаваліся творы літаратараў і публіцыстаў (аповесці, раманы, літаратурныя рэцэнзіі і інш.), Б. Альхоўскі надрукаваў сваю гісторыка-палітычную працу «Вольны народ», а таксама твор «Вецер у нетрах» і вялікую колькасць артыкулаў, у т.л. рэцэнзій на творы розных пісьменнікаў. Будучы чалавекам бліскучага таленту і вялікай эрудыцыі, Б. Альхоўскі зарабіў сабе вялікую павагу сярод супрацоўнікаў часопіса. Таму не выпадкова, што менавіта ён, як лідэр, вакол якога гуртаваліся аднадумцы, у 1938 г. стаў сурэдактарам часопіса, застаючыся на гэтай пасадзе аж да самога пачатку Другой сусветнай вайны. Акрамя таго, Б. Альхоўскі супрацоўнічаў з рэдакцыямі іншых, у т.л. замежных перыядычных выданняў: быў рэдактарам украінскай газеты «Трыбуна маладых», якая выдавалася ў Парыжы, а таксама супрацоўнікам львоўскага часопісу «Насустрач» і польскамоўнага журнала «Польска-Украінскі інфармацыйны бюлетэнь». У гэтых перыядычных выданнях Б. Альхоўскім было надрукавана багата артыкулаў, у т.л. эсэ і рэцэнзій, у якіх ён закранаў тагачасныя палітычныя і культурныя працэсы, асвятляў розныя пытанні культурнага жыцця і духоўнай культуры ўкраінскага народа, а таксама польскай нацыянальнай палітыкі, палемізаваў з палітычнымі апанентамі, разглядаў сучасныя яму грамадска-палітычныя праблемы ў кантэксце гістарычнага развіцця. Высокую адзнаку сучаснікаў атрымаў надрукаваны ім у журнале «Польска-Украінскі інфармацыйны бюлетэнь» артыкул «Ленін аб Украіне». Бліскучыя публікацыі стварылі яму ў тагачасным творчым асяроддзі заслужаны аўтарытэт выдатнага пісьменніка, даследчыка-гісторыка і палеміста.

Акрамя журналісцкай працы, пісьменнік супрацоўнічаў з шэрагам польскіх навуковых устаноў, выступаў з лекцыямі і прамовамі. Працуючы ў Украінскім навуковым інстытуце ў Варшаве, ён займаўся вывучэннем эканомікі і культуры савецкай Украіны. Пражываючы ў Варшаве, Б. Альхоўскі працягваў нязменнае супрацоўніцтва з Нацыянальным музеем і Архівам гісторыі ўніі ў Львове, займаючыся па дамоўленасці з гэтымі ўстановамі пошукам старажытных украінскіх твораў мастацтва, абразоў, дакументаў і кніг. І ён не толькі збіраў старадаўнія творы мастацтва і карты Украіны, але і вывучаў іх. Як адзначае Аляксандр Ільін, Б. Альхоўскі быў сапраўдным знаўцам украінскай гравюры XVII–XVIII ст.

Памёр Б. Альхоўскі ў маладым узросце, пражыўшы ўсяго толькі 38 гадоў. Але дзякуючы моцнаму таленту за даволі кароткі тэрмін, адведзены яму для жыцця, змог стварыць і пакінуць нашчадкам багатую творчую спадчыну. Цікавасць сучаснікаў выклікае і непасрэдна жыццё гэтага чалавека, яго сэнсажыццёвыя імператывы. Бо ў аглядзе жыццядзейнасці асобнага чалавека, нават, калі і не заўсёды пагаджацца з нейкімі асобнымі светапогляднымі ўяўленнямі іх носьбіта, грамадства заўсёды можа знайсці для сябе нейкі павучальны сэнс.

*Наталля ДЗЯДЗІЧКІНА,*
*кандыдат гістарычных навук*

# Генеральский памятник на берегу Буга

**На правом берегу реки Западный Буг, в Бресте, установлен памятник на месте захоронения генерал-майора князя Павла Давидовича Пхейдзе, скончавшегося в 1831 году.**

Пхейдзе принадлежали к Грузинскому княжескому роду Имеретинские. Его отец, секунд-майор князь Давид Пхейдзе, отдал сына на обучение во 2-й Кадетский императора Петра Великого корпус в Санкт-Петербурге. По окончании обучения в корпусе Павел Пхейдзе служил в инженерных войсках. С февраля 1811 года, будучи в звании капитан, занимал должность командира пионерной роты 2 Пионерного полка (2-й Пионерный полк — воинская часть, основная тактическая единица, в Русской императорской армии в Российской империи в 1803-1816 гг. Предназначен для выполнения боевых задач, как правило, в составе соединений, а также самостоятельно).



Герб княжеского рода Имеретинские

Был участником Отечественной войны 1812 года. Осуществлял отбор нижних чинов роты на формирование Лейб-гвардии Саперного батальона. В этом же году подполковнику Пхейдзе было присвоено почетное звание — шеф батальона. В 1815 году находился в Бессарабии, в имении местечка Бендеры.

Русский классик Александр Сергеевич Пушкин вспоминал о визите к генералу Пхейзе из поездки в Кишинев. «Чиновник горного ведомства Иван Иванович Эйхфельдт, обер-гейтгауптман, был в полном смысле ученый немец, флегматик, равнодушный ко всему и к своей жене. Единственной страстью которого были азартные игры и пунш. Любил поймать кого-нибудь и засесть за столиком с чайником и бутылкой рому. Им и кончил жизнь, вступив в состязание с генерлом Ферстером, на вечере у генерала князя Пхейзе в Бендерах. Развившаяся водяная в груди скоро свела его в могилу."

В 1816 году, в ходе реорганизации Инженерных войск Императорской Русской армии, рота под командованием подполковника Пхейдзе была направлена в Киев на формирование 7 Пионерного батальона. В этом же году ему было присвоено звание полковник.

В 1822 году князю Павлу Давидовичу Пхейдзе присвоено звание генерал-майор, был награжден орденом Святого Георгия 4-й степени за 25 лет выслуги, в отставке с 1826 года.



Снимок 14 ноября 1930 года.
Источник: Narodowe Archiwum Cyfrowe



Снимок 23 октября 2016 года



Во время Польского восстания 1830–1831 годов был вновь призван на воинскую службу, занимал должность командира 3-й бригады 2-й пехотной дивизии. Умер от раны, полученной в сражении 14 апреля 1831 года, и был похоронен у Брест-Литовска, на правом берегу реки Западный Буг. Памятник воздвигнут стараниями военнослужащих 2-й пехотной дивизии в начале XX столетия, штаб дивизии располагался в Брест-Литовске.

Прошедшие войны и военные конфликты за минувшие столетия по обе стороны реки Западный Буг пощадили этот старейший памятник и сохранили его для истории.

*Иван ЧАЙЧИЦ,*
*специально для социального портала «Реальный Брест»*

*История одного снимка*

# Из книги Ивана ПАНАСЮКА "От Остромечино до Остромечево"



ОСТРОМЕЧЕВО. Июль 1959г., в год 10-летия образования колхоза «Память Ильича".
У 2-х этажного дома бывшего землевладельца Пузыны Александра Октавиана Ричарда (дом с 1884 по 1914гг.), а после — его сына Влодзимежа с 1914 по 1939 гг.).

**I-й ряд, сидят слева-направо:** 1. Кондратюк Степан Степанович. (передовой механизатор).
2. Бородей Николай Александрович (полевод). 3. Матвеюк Михаил Павлович (полевод).
4. Шувалов Александр Александович (полевод). 5. Павлючик Виктор. 6. Павлючик Владимир (шофёр).
7. Хомук Леонид Корнилович (механизатор).

**II-й ряд стоят:** 8. Демьянюк Николай Д. (директор ОСШ). 9. Матвеюк. 10. Олискевич Вера (бухгалтер).
11. Деришев Иван Васильевич. (Председатель к-за «Память Ильича» 1957–1961гг).
12. Гнидюк Пётр (зав. Остромечевским ФАПом).

**III-й ряд стоят**: 13. Андреюк Дмитрий (бригадир; бухгалтер). 14. Вакулич Владимир Тимофеевич (учитель истории ОСШ). 15 Данилюк Владимир (бухгалтер; позднее механизатор).
16. Мизерия Семён Филиппович (бригадир полеводческой бригады д. Остромечево с 1957 по 1961год. Председатель к-за «Память Ильича» 1952-1957; 1961-1976гг.). 17. Новиков Сергей А. (зам. председателя к-за «Память Ильича»), за ним 18. Сидоров В. И. (бригадир полеводческой бригады д. Кошилово).
19. Хвалюк Михаил (шофёр). 20. Харитонюк Серафим (огородник и садовник колхоза).
21. Якубовский Александр (ветеренарный врач). 22. Шиш Семён Демидович (председатель Остромечевского с/совета, работавший более 30 лет). 23. Данилюк Фёдор Дементьевич (передовой механизатор).
24. Кравчук Николай Силуанович ((шофёр).





# Калаўрот культурнага жыцця



*Нататкі з раённага семінара*

# Фальклор — праява пачуццяў, настрою, эмоцый

**Гісторыя кожнага рэгіёна захоўвае багатую фальклорную спадчыну, з якой павінен знаёміцца кожны чалавек з дзяцінства, бо веданне сваіх вытокаў, сваіх каранёў садзейнічае фарміраванню пачуцця нацыянальнай годнасці, любові да свайго народа, краіны.**

Абудзіць цікавасць да разнастайных відаў традыцыйнага мастацтва, стымуляваць падтрымку аўтэнтычных форм традыцыйнай народнай культуры на месцах натуральнага яе бытавання — з гэтай мэтай на базе Ляплёўскага СК ДзУК «Брэсцкая раённая цэнтралізаваная клубная сістэма» быў арганізаваны і праведзены раённы семінар «Дзейнасць аўтэнтычных аматарскіх фальклорных калектываў мастацкай творчасці».

У рамках семінара прайшоў шэраг мерапрыемстваў: відэапаказ вясельнага абрада «Сыра» аматарскага фальклорнага аб'яднання «Жывая вада» Ляплёўскага СК у перадачы «Наперад у мінулае», дэфіле-паказ аўтэнтычнага касцюма Дамачаўскага строя, харэаграфічная пастаноўка «Местачковыя полькі» дзіцячага аматарскага аб'яднання Страдзецкага СДК. Рэпертуарны агляд фальклорных архіваў калектываў складаў: урывак з абраду «Гуканне вясны» аматарскага аб'яднання «Жывая вада», «Капустныя вячоркі» аматарскага аб'яднання «Весялушкі» Збунінскага ДСП. Выканальніцкае майстэрства было скіравана на выхаванне дарослага і падрастаючага пакалення сродкамі традыцыйнага народнага мастацтва.

Прысутныя з цікавасцю слухалі пра галіну духоўнай культуры - аўтэнтычны фальклор, гісторыю беларускіх народных танцаў, арганізацыю фальклорна-краязнаўчай работы.

Гасцям сустрэчы было важна пачуць якімі якасцямі павінен валодаць чалавек, які прысвяціў сябе кіраўніцтву творчым мастацкім калектывам.

Сустрэча была па-сяброўску шчырай, запамінальнай, падарыла ўдзельнікам семінара шмат карысных эмоцый, а галоўнае - простую выснову, што народная паэтычная творчасць, мастацтва слова і музыкі, якія звязаны з бытам і абрадамі, дазваляюць сучаснаму чалавеку любога ўзросту і статусу спазнаць сваю гісторыю. Яна з'яўляецца пераймальнікам уменняў, ведаў і любові да роднай спадчыны, што аказвае станоўчы ўплыў на выхаванне дзяцей і моладзі.

*Алена ПАДДУБНАЯ*










# Гэта наша спявае зямля

**Раённае свята традыцыйнай культуры «Пяро жар-птушкі» прайшло ў мінулую пятніцу ў г.п. Дамачава. У нашым раёне яно праводзіцца адзін раз у два гады і ўвесь час прыцягвае да сябе ўсе новыя творчыя калектывы.**

На летняй пляцоўцы пасялковага парку стаяла святочна ўпрыгожаная сцэна, якая была афармлена ў народным стылі. Юнак і дзяўчына, апранутыя ў традыцыйныя беларускія касцюмы, віталі ўдзельнікаў конкурсу. А іх у гэты дзень было нямала. Больш дзесятка калектываў з усіх куткоў Прыбужжа дарылі свае творчыя таленты гасцям свята.

Дамачаўская пляцоўка сабрала не толькі землякоў, але і сяброў-пабрацімаў з Германіі — кіраўніка адзела міжнароднага супрацоўніцтва абшчыны Хаўсіч, які з'яўляецца нашчадкам першых пасяленцаў з роду Галендраў, Зігфрыда Людвіга, а таксама — каардынатара працы абшчыны Хаўсіч Пітэра Кайзера; з Польшчы — войта гміны Славацічы Аркадзіўша Мішталя, дырэктара школы павета Славацічы Мар'юша Алешчука, кіраўніка па справах гміны Славацічы Монікі Тышчук, спеціяліста гміны Славацічы Радослава Шчура.

З прывітальным словам да іх і гасцей свята звярнуўся старшыня раённага Савета дэпутатаў Уладзімір Хвацік.

- Прыемна, што менавіта ў святы вечар Пятра і Паўла свята сабрала людзей, якія цалкам душой і сэрцам аддадзены роднаму краю, якія рупліва зберагаюць і перадаюць нашчадкам сваю спадчыну, — адзначыў Уладзімір Міхайлавіч.

Старшыня Дамачаўскага сельсавета Анатолій Струк выказаў пажаданне, каб гэты конкурс стаў зараджальнікам добрай традыцыі святкаваць нашу малую радзіму. І ў наступным разе магчыма і госці з-за мяжы прыедуць ужо са сваімі творчымі калектывамі, каб выступіць на святочнай сцэне.

Трэба адзначыць, што агляд-конкурс традыцыйнай культуры ў межах раённага свята пачаўся с занальных праглядаў на месцах, каб затым прадэманстраваць свае нумары на галоўнай сцене «Пяра жар-птушкі». Першымі распачалі святочную праграму вечара старэйшы фальклорны калектыў раёна «Гутнячка» з Гуцінскага Дома сацыяльных паслуг. Прыцягвалі ўвагу гледачоў і ўдзельнікі фальклорнага аматарскага калектыва «Весялушкі» са Збунінскага Дома сацыяльных паслуг. Яны прапанавалі старадаўні абрад «Бабка-павітуха». Яшчэ адзін — «Хрыстыны» — паказаў фальклорны аматарскі калектыў «Жывая вада» Ляплёўскага сельскага клуба. Такія радзінныя абрады беларусаў мелі шырокае распаўсюджванне па ўсей тэрыторыі нашай краіны ў мінулым, захаваліся яны і на сённяшнім часе.

Дзеці і моладзь з задавальненнем цікавяцца фальклорам роднага краю, яго гісторыяй і культурай. І прыклад таму — выступы дзіцячага аматарскага калектыву Камароўскага сельскага Дома культуры, фальклорнага гурта Знаменскага СДК, аматарскага калектыву «Канфеці» Страдзечскага СДК... Шчырымі ўмешкамі і апладысментамі сустракалі аднавяскоўцаў — аматарскі калектыў Дамачаўскага ПДК. Прыцяг-







нуў увагу гледачоў дэфіле-паказ аўтэнтычнага жаночага касцюма Дамачаўскага строю. Пасля цікавага падарожжа ў мінулае да нашай спадчыны на сцэну падняліся начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Ларыса Балашова і дырэктар раённай цэнтралізаванай клубнай сістэмы Аляксей Лявонаў. Яны правялі цырымонію ўзнагароджвання ўдзельнікаў раённага агляду-конкурсу традыцыйнай культуры. Дыплом першай ступені атрымаў калектыў «Жывая вада», дыплом другой — «Канфецi», дыплом трэцяй — «Весялушкі».

Пасля прыемных момантаў святочную праграму прадоўжылі творчымі выступамі і іншыя таленавітыя артысты Прыбужжа. А пакуль на сцэне гледачоў радавалі народныя калектывы, іншых удзельнікаў свята чакала насычаная забаўляльная праграма, якая разгарнулася на шырокай пляцоўцы парка. Прыцягвала ўвагу выстава-кірмаш майстроў і ўмельцаў Прыбужжа. Вырабы з саломкі, вышыўка крыжам, мастацкая разьба па дрэве і нават бандарныя вырабы для мёду, салення і квашэння, посуд для лазні — усе гэта было шчыра прапанавана ўдзельнікам свята. Для ўсіх жадаючых захаваць памятны момант ў народных касцюмах беларуса і беларусачкі была абсталявана асобная фотазона. Але асаблівае ажыўленне панавала каля ўмельцаў з Камароўскага СДК. Яго ўдзельнікі здолелі грунтоўна ўладкаваць сапраўдную гасціную, упрыгожыць яе вышытымі ручнікамі, абрусамі, карцінамі, кошыкамі. Цешыла і вабіла да сябе маляўнічае меню, дзе значыліся стравы, прыгатаваныя па старадаўніх рэцэптах: хлеб з укропам, квас з цыбуляй, мачанка з тварагом, румяная крывянка, бліны з мёдам. Стол ламаўся ад ежы! Госці свята з задавальненнем здымалі спробу з кожнай стравы, нахвальваючы таленавітых кухараў.

Юным удзельнікам свята асабліва спадабаліся выхаванцы конна-спартыўнага клуба «Белая Русь» з вёскі Клейнікі — коні Аргон і Параграф. Тыя дзеці, хто здолеў перадужыць страх перад гэтымі высакароднымі жывёламі, пад наглядам вопытных трэнераў змаглі пракаціцца і атрымаць максімум радасці і незабыўных эмоцый. А пасля таленавітыя ўдзельнікі клуба Марыя Шэлонік, Ігар Пясецкі, Андрэй Булавацкі і Іван Голец паказалі адмысловую джыгітоўку. Спрытна кіруючы скакунамі і праносячыся міма гледачоў, вершнікі прадэманстравалі небяспечныя акрабатычныя практыкаванні. Джыгітоўка, заснаваная на кемлівасці і смеласці, гнуткасці і сіле мускулаў, нікога не здолела пакінуць абыякавым. Запомніўся адзін з трукаў — «прамое валачэнне». Джыгіт саскоквае з сядла, павісае на корпусе каня і «едзе», дакранаючыся нагамі да зямлі. Юнакі прадэманстравалі сапраўднае майстэрства, калі падымалі на поўным скаку пакінутую на зямлі шапку, рассякалі шабляй гнуткую лазу і пластыкавую бутэль з вадой. Бліснуўшы, як маланка, востры клінок зразаў верхнюю частку бутэлькі. Пырскі вады разляталіся ў розныя бакі. Але гэта не бянтэжыла гледачоў, якія на нейкі час прыльнулі да агароджы, дзе праходзіла паказальная праграма, якая ўключала ў сябе таксама і валоданне халоднай зброяй у сядле, і стральбу з пісталета па мішэні, і пераадольванне жывога бар'ера, і скокі задам наперад. Адным з самых відовішчных трукаў джыгітоўкі стаў праход праз агонь.

*Наталля ТАЛКАЧОВА,*
*фота аўтара*





# Лета з добрай кнігай

**Новыя выданні пісьменнікаў Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі былі прадстаўлены шырокаму колу аматараў друкаванага слова падчас творчай сустрэчы, якая адбылася ў кнігарні «Дружба» ў Брэсце ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай».**



Мерапрыемства адкрыла Ліза Цупрык – юная артыстка, пераможца разнастайных творчых спаборніцтваў. Прачула і натхнёна яна прачытала верш Георгія Тамашэвіча, прысвечаны 1000-годдзю абласнога цэнтра. А кнігу таленавітага брэсцкага паэта і заслужанага журналіста «Анёл над Брэстам» прадставіла слухачам старшыня абласнога аддзялення СПБ Таццяна Дзямідовіч.

Гэта каляровае літаратурна-мастацкае выданне без сумненняў стане цудоўным падарункам для брастаўчан і гасцей горада-юбіляра. Яно было выдадзена сёлета ў рэдакцыі Брэсцкай абласной газеты «Заря» і складаецца з вершаў Георгія Сцяпанавіча, уражанне ад якіх узмацняюць фатаграфіі В. Караля і А. Шульгача.

Меў слова безумоўна і сам аўтар – ён прачытаў свае творы, навеяныя мудрасцю Канфуцыя.

Зінаіда Дудзюк прэзентавала слухачам дзве свае новыя кнігі: «Брэст. Храналагічны даведнік» і «Закон захавання кахання». Першая будзе надзвычай карыснай для школьнікаў і студэнтаў, якія жадаюць ведаць глыбей гісторыю абласнога цэнтра, а другая раскрывае разнастайнасць лёсаў чалавечых. Даведнік выйшаў у выдавецтве «Альтэрнатыва», а другая кніга Зінаіды Іосіфаўны – у ТДА выдавецтва «Чатыры чвэрці».

На сустрэчы аўтарка прачытала свой іранічны верш.











Наступным выступаў Аляксандр Валковіч, падзякаваўшы ўсім тым, хто дапамог яму ў перавыданні ўнікальнай кнігі «Письма войны». Гэты сёлета дапоўнены ўнікальны гісторыка-дакументальны публіцыстычны ілюстраваны зборнік лістоў вайны выйшаў тыражом у 300 экземпляраў да 75-годдзя перамогі над фашызмам (частка будзе перададзена ў школы Брэсцкага раёна).

Паэтка Таццяна Шульга, у сваю чаргу, прачытала ўласныя вершы, прысвечаныя творчасці, і прадставіла два свае выданні: «Отражение» і «Акварельный Брест». Абодва — сумесныя праекты аўтаркі з мастакамі: першы — са знакамітым жывапісцам, заслужаным дзеячам мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валерыем Шкарубам, другі — з таленавітымі майстрамі пэндзля Антанінай Гуршчанковай, Вольгай Данілюк, Марынай Лапо, Ігарам Раманчуком, Ганнай Чапурной-Алейнік (да юбілею Брэста). Абедзьве кнігі выйшлі ў выдавецтве ААТ «Брэсцкая друкарня».

І на завяршэнне Таццяна Шульга пазнаёміла слухачоў з плёнам сваёй шматгадовай творчай працы з таленавітай моладдзю Брэсцкага тэхнічнага ўніверсітэта, які выліўся ў метадычны дапаможнік «Путь к сердцу».

«Слово талантам»... Так называецца калектыўны паэтычны зборнік, які прадставіла на сустрэчы сусветнавядомы музычны педагог, паэт і празаікІрына Морых. Нядаўна яна прыняла ўдзел у міжнародным літаратурным праекце, вынікам якога стаў гэты альманах (у яго ўвайшлі творы 20 лепшых паэтаў, усяго іх было 500). У хуткім часе, дарэчы, выйдзе ўласная кніга Ірыны Морых.

Асаблівую цікавасць у маленькіх чытачоў выклікалі яркія, запамінальныя кніжкі брэсцкіх дзіцячых пісьменнікаў. Вячаслаў Бельцюкоўпрадставіў свае «Лесные сказки», на стварэнне якіх яго натхніла дачушка Евачка, а казачніца Вольга Сандрыкава прыйшла на сустрэчу са сваім чароўным чамаданчыкам, у якім жывуць героі яе нядаўна выдадзенай казкі «Пасхальный свет» (ілюстратар — прафесійная мастачка, дачка аўтаркі Дар'я).

Намеснік старшыні абласнога аддзялення СПБ Любоў Красеўская расказала пра чарговы зборнік «На одном языке», што выйшаў у Разані і ўключае яе вершы.

На завяршэнне Таццяна Дземідовіч падзякавала кіраўніцтву кнігарні за шматгадовае супрацоўніцтва і запрасіла набываць кнігі, пра якія ішла гаворка падчас сустрэчы (большасць іх ёсць на паліцах).

*Настасся НАРЭЙКА*





# БЕЛАРУСЬ ПОМНИТ



# Гарачыя вугольчыкі з гарніла Вялікай Айчыннай

**Менавіта да слаўнай Перамогі нашага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гадоў, а тым больш да юбілейных дат, у Беларусі выдаюцца і перавыдаюцца ёмістыя кнігі, эпапеі, калектыўныя зборнікі, мемуары нашых празаікаў, паэтаў, гісторыкаў аб той далёкай чалавечай трагедыі.**

Брэсцкія пісьменнікі дабравольна і з вялікай адказнасцю далучаюцца да гэтай патрэбнай і важнай творчай працы, прымаюць актыўны ўдзел у зборы інфармацыі аб тых страшных ваенных падзеях на свяшчэннай, шматпакутнай зямлі роднай Брэстчыны. Пажаўцелыя дакументы франтавікоў і партызан, дзённікі камандзіраў, пісьмы-трохвугольнікі, паштоўкі, канверты, паведамленні і «пахаронкі» з фронту, вестачкі з тылу на фронт, успаміны жывых сведкаў ваенных падзей служаць асновай для напісання новых літаратурна-мастацкіх твораў, гістарычна-дакументальных раманаў, аповесцяў, апавяданняў, прысвячаных подзвігу і гераізму нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў.

І адным з такіх шчырых і адданых патрыётаў-літаратараў, заўзятых збіральнікаў бясцэннай інфармацыі і стваральнікаў кнігі-помніка мужнаму пакаленню пераможцаў з'яўляецца наш нястомны руплівец – сябра Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандр Валковіч. Для ўвекавечання народнай памяці і з мэтай выхавання маладога пакалення ў духу высокага патрыятызму, любові і павагі да сваіх вызваліцеляў – абаронцаў міру, не шкадуючы сябе і часу, Аляксандр Міхайлавіч шмат зрабіў і прадаўжае рупіцца на неабсяжнай літаратурнай ніве.

Шчаслівай літаратурнай падзеяй для нас стала і тое, што перад самым галоўным і важным святам нашага народа — Днём Незалежнасці і 75-гаддзем вызвалення Беларусі ад карычневай чумы пабачыла свет яго дапоўненае і перапрацаванае другое выданне ўнікальнага гістарычна-дакументальнага, публіцыстычнага, ілюстраванага зборніка «Письма войны» (Брэст, «Альтернатива», 2019). Першае выданне выйшла ў свет у 2010 г. па ініцыятыве аўтара кнігі і абласной газеты «Заря» пры падтрымцы Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама. Дапоўненае і дапрацаванае выданне прысвечана таксама 75-годдзю вызвалення Брэсцкага раёна — і невыпадкова яго актыўна падтрымаў Брэсцкі раённы выканаўчы камітэт.

Краіна ўрачыста і з гонарам адзначыла слаўную дату, ушанавала жывых вызваліцеляў, аддала даніну павагі і памянула загінуўшых у барацьбе і па-








мерлых ад цяжкіх ран сыноў, подзвігам каторых ганарыцца, і прадаўжае радавацца міру, вольнай, ствральнай працы і залатому сонцу... А я з пяшчотай, як дарагое дзіцятка, як святую рэліквію, з нахлынутым шчымлівым трымценнем трымаю ў руках дасланую мне кнігу-падарунак «Письма войны», удумліва і з засяроджанай цікавасцю ды ўвагай гартаю яе старонкі, вывучаю кнігу, як найцэнны скарб народнай мужнасці, як неаспрэчную сведку, як неабвержны доказ аб страшнай праўдзе, аб крывавым далёкім часе на свяшчэннай брэсцкай зямлі.

О, колькі апісана тут фактаў і падзей, колькі сабрана болю і смутку, гора і пралітых слёз, колькі прасочваецца, перадаецца светлых пачуццяў, памкненняў, жаданняў, надзей, любові і чалавечай веры ў дабро і святло, у Перамогу і мірнае жыццё! І колькі ў салдацкіх пасланнях гучыць і разносіцца ў вечнасць праклянцца вайне і тым, хто яе развязаў!



Другое выданне ўнікальнага гістарычна-дакументальнага, публіцыстычнага, ілюстраванага зборніка «Письма войны»

Змястоўную, вартую прызнання і высокай адзнакі прадмову да зборніка напісаў сам пісьменнік. Атрымалася яна ў яго даволі грунтоўная, добра прадуманая, па-сапраўднаму патрыятычная, а самае галоўнае – да болю ўразлівая і кранальная, як быццам сам пісьменнік сваімі нагамі прайшоў праз тыя вогненыя дарогі і выпрабаванні, праз пажарышчы і пекла вайны. Бачна, што Аляксандр Валковіч – прафесіянал у публіцыстыцы і мастацкай прозе; адчуваецца, што тэма вайны ім да болю перажыта і пражыта, падаецца, што ўсе героі ягонай кнігі — блізкія і дарагія яму людзі. Ці не таму, што аб жахах вайны будучы празаік наслухаўся яшчэ з дзяцінства — ад уласных бацькоў, шматлікіх родзічаў? Бацька пісьменніка, Валковіч Міхаіл Ільіч, – удзельнік вайны, ордэнаносец; маці, Лідзія Іларыёнаўна, два гады адбатрачыла ў нямецкіх працоўных лагерах. Таму чытаць аўтарскую прадмову з раўнадушнасцю і без слёз немагчыма. Здаецца, стрымліваеш сябе, а сэрца ў грудзях усё роўна — шчыміць і перапаўняецца гонарам за свой народ, за вызваліцеляў, за такога сумленнага, вернага свайму пісьменніцкаму доўгу беларуса — майстра мастацкага слова. Перадыхнеш крышку і зноў вяртаешся да прачытанага і — здзіўляешся чалавечай сардэчнасці, пранікліваецці, духоўнасці і патрыятычнай выхаванасці аўтара, не гаворачы ўжо пра яго высокі ўзровень пісьменніцкага прафесіяналізму.

Патрэба ў перавыданні кнігі, як тлумачыць сам аўтар, узнікла таму, што далёка не ўсё сабранае раней змагло трапіць у першае выданне (з-за аб'ёму рукапісу, друкарскіх затрат), а тут яшчэ дабавілася і новая важная інфармацыя: пісьменніку пашчасціла сабраць шмат дадатковага ваенна-дакументальнага, эпісталярнага, ваенна-гістарычнага матэрыялу. Адазваліся ажно з Падмаскоўя сваякі лейтэнанта Айзіка Іофе — абаронца легендарнай Брэсцкай цытадэлі, імя якога навечна выбіта на плітах Мемарыяла крэпасці-героя... Хацелася ўсё свежае як хутчэй данесці да шырокага кола чытачоў.

Увага і перавага на гэты раз больш надавалася ваенным гісторыям і лёсам воінаў-змагароў, публікацыі іх простых, але шчырых і цёплых пасланняў родным людзям — клапатлівых пісьмаў-прызнанняў, пісьмаў-развітанняў, напісаных паспешлівым почыркам у акопе ці ў партызанскай зямлянцы, на лясной паляне ці ў сырым бліндажы; пісьмаў з абгарэлымі краямі ад цыгары або самакруткі, з капелькамі крыві ці пота, са слядамі горкай салдацкай ці жаночай, а нярэдка і дзіцячай слязы. І ва ўсіх пажаўцелых ад часу, зачытаных, працёртых агрубелымі рукамі лістах яскрава прысутнічае сапраўды істотная вялікая любасць да Айчыны і цвёрдая вера ў Перамогу.

Геаграфія франтавой карэспандэнцыі і дакуметацыі, уключаная ў зборнік, даволі шырокая. Разнастайнасць архіўных, музейных матэрыялаў падзелена на раздзелы і главы і размеркавана ў храналагічным парадку: 1941-1945 гады, не прыдаючы розніцы грамадскаму палажэнню, ваенным званням, баявым ці іншым заслугам аўтараў пісьмаў. Выключэнне было зроблена толькі матэрыялам, звязаным з вызваленнем Беларусі і Брэстчыны, што само па сабе апраўдана. Бо вайна, як піша Валковіч, «не дазіравала смярцей і страт, а адпускала кожнаму рэгіёну і чалавеку спаўна». Асаблівая ўвага ў кнізе прыдаецца пісьмам нашых землякоў-партызан, удзельнікам знакамітай вызваленчай аперацыі «Баграціён».

Тэкст зборніка падзелыны на шэсць глаў. У першую главу, як і павінна быць, уключаны малавядомыя адсканіраваныя пісьмы абаронцаў Брэсцкай крэпасці — вестачкі на радзіму, напісаныя ў апошнія мірныя дні. Дні, калі чорная хмара драпежніцкай вайны няўмольна насоўвалася да граніц нашай вялікай дзяржавы, пагражаючы страшэннай бядой і разрухай. Дыханне гэтай навалы ясна адчувалася і ў пісьмах воінаў-пагранічнікаў.

Асобнымі главамі прадстаўлены гісторыя дзённікаў, запісных кніжак і сшыткаў-нататнікаў пісьменніка-патрыёта Сяргея Смірнова, партызанскія дзённікі і малюнкі, пісьмы з няволі маладых вязняў-беларусаў, вывезеных у Германію на прымусовую працу. Дарэчы, па завяшчанні Сяргея Сяргеевіча амаль увесь пісьменніцкі архіў, пасля яго смерці, быў перавезены ў Музей абароны Брэсцкай крэпасці, і дзе Аляксандр Валковіча, як дакументаліст, пачарпнуў сабе нямала карыснай інфармацыі.

У кнізе прадстаўлены ўсе раёны Брэсцкай вобласці – пісьмамі-пасланнямі франтавікоў з ліку ураджэнцаў кожнай мясціны, іх баявых сяброў, маціярок, жонак, нашчадкаў. Вялікай падборкай сабраных пісьмаў прадстаўлена Піншчына, Століншчына, адкуль дзесяткі тысяч маладых людзей і малалетак былі прымусова вывезены ў германскае рабства. Пра нечалавечыя адносіны немцаў да нявольнікаў сведчаць і шматлікія іншыя ўцалелыя дакументы і акты, пісьмы былых вязняў. Дарэчы, арыгіналы гэтых дакументаў пісьменніку пашчасціла адшукаць у Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, у адкрытым друку яны прадстаўлены ўпершыню.

Горка чытаць пра трагічны лёс выхаванцаў дзіцячага дома пасёлка Дамачава Брэсцкага раёна, знішчэнне якіх адбылося 23 верасня 1942 года, а таксама — расповед уратаванай выхаванкі гэтага ж дзіцячага прытулку — полькі Люцыны Хлюдзінскай, якую праз шмат гадоў адшукаў аутар кнігі...

Са смуткам і абурэннем прачытваеш крывавыя падзеі 18 верасня 1942 года, якія былі ўчынены гітлераўцамі і паліцаямі перад расправай з дзецьмі-сіратамі ў Дамачаве: за адзін толькі дзень акупанты растралялі 2700 мірных жыхароў пасёлка. Такім жа чынам карнікі расправіліся і з вязнямі гета пасёлка Тамашоўка.

Ад болю замірае сэрца, калі чытаеш перадсмяротную запіску мужнай беларускай дзяўчынкі Каці Сусанінай з г. Ліозна Віцебскай вобласці, якая, будучы даведзенай да адчаю гітлераўскім памешчыкам, у дзень свайго 15-годдзя (12 сакавіка 1943 г.) рашылася на самагубства, каб толькі не ехаць у праклятую Германію.

Родную матулю пісьменніка таксама не абмінула цяжкая доля рабскай працы на чужыне. Лідзія Іларыёнаўна Валковіч была вывезена ў нямеччыну ў жніўні 1943 года, прайшла праз працоўныя лагеры Германіі, Аўстрыі, Італіі і толькі летам 1945 года была вызвалена амерыканцамі. Яе ўласныя ўспаміны аб фізічных пакутах і душэўных муках, падчас блукання па еўрапейкіх лагерах, сын дазволіў сабе размясціць толькі напрыканцы зборніка, у 6-й главе. Хутчэй за ўсё аўтар так паступіў з-за празмернай чалавечай сціпласці.

Унікальнасць зборніка – бяспрэчна. Аб гэтым гаворыць не толькі сама назва кнігі, сцвярджае ўдалы падзагаловак, але і сведчаць бясцэнныя дакументы-арыгіналы, копіі, праўдзівая хроніка-летапіс ваеннага часу, сапраўдныя, а не выдуманыя імёны

аўтараў пісьмаў — удзельнікаў ваенных падзей. Дыханне рэальных баявых абставін, франтавога побыту, пералік гераічных паступкаў воінаў, партызан і камандзіраў, праблем і радасцей людзей тылу — усё гэта адлюстравана ў сабраных дакументах і ўвекавечана пісьменнікам у кнізе мужнасці.

Аўтар наўмысна і свядома суправадзіў свой праект характэрным падзагалоўкам «Хрестоматия патриотизма», бо пісьмы, якія былі ўключаны ў кнігу, і ёсць не прыдуманая, а праўдзівая, дакладная летапіс-хрэстаматыя ваеннага часу — зборнік выбраных сапраўдных дакументаў або ўрыўкаў ад іх, дакладней кажучы, — вучэбны дапаможнік. Таму пісьменнік зусім не выпадкова лічыць, што тэрмін «хрэстаматыя» сугучны слову «хрыбет». Патрыятызм — станавы хрыбет, аснова нашай агульнай Перамогі. І як філасаф-аналітык аўтар мае рацыю...

Франтавыя пісьмы — гэта гарачыя вугольчыкі, якія выкаціліся з топкі гіганцкага, лёсаноснага змагання пад назвай Вялікая Айчынная вайна. Яны і цяпер прадаўжаюць апальваць нашыя сэрцы.

Удумліва аналізуючы прачытанае, прыходзіш да вываду, што і праз дзесяцігоддзі жывым, гаварлівым струменьчыкам яскрава прасочваецца да нас, промнікам прабіваецца шчырая просьба і гарачы запавет загінулых продкаў-абаронцаў: пільна берагчы здабыты мір і завяваную свабоду. Упэўнена, што і праз сотні гадоў гэты запаветны голас барацьбітоў будзе кранаць сэрцы і натхняць душы нашым наступнікам.

Несумненна, зборнік выбраных апублікаваных дакументаў будзе служыць вучэбным дапаможнікам, па якім нашчадкі будуць вучыцца патрыятызму, мужнасці, высакароднасці, ідэйнасці, загартоўваць свой маральны дух, выхоўваць цвёрдую веру і перакананасць. Менавіта гэтымі якасцямі валодалі нашы бацькі, дзядулі, прадзеды. Таму і выстаялі ў страшны час, адолелі лютага ворага.

Хочацца ўголас засведчыць: не, гэта не толькі кніга-прысвячэнне 75-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, 75-годдзю Перамозе савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, гэта КНІГА-ПОМНІК усім барацьбітам і тылавікам той страшнай сусветнай бойні.

Але як бы старанна і падрабязна я не апісвала змест зборніка, а ўсё ж такі чытачу, каб лепей зразумець і адчуць той час і людское гора, трэба прачытаць кнігу асабіста – уважліва, удумліва і пранікнёна, бо кніга варта, каб яе чыталі, аб ёй пісалі, гаварылі.

Набыць яе можна ў выдавецтве «Альтернатива» г. Брэста ці ўзяць у бібліятэках Брэста і Брэсцкай вобласці.

Дарэчы, сродкі на перавыданне кнігі збіралі, як кажуць, усім мірам. У гэтай патрыятычнай справе прынялі удзел Саветы ветэранаў, арганізацыі, установы, сельгаспрадпрыемства і асабіста грамадзяне Брэсцкага раёна, вобласці, Рэспублікі Беларусь, а таксама прадстаўнікі Расіі, Украіны, Германіі, Ізраіля, ЗША. З гэтай мэтай былі выкарыстаны таксама магчымасці беларускай краўдфандзінгавай інтэрнэт-пляцоўкі Ulej.by.

Прэзентацыя зборніка Аляксандра Валковіча «Письма войны» адбудзіцца 27 ліпеня ў ДК аграгарадка Астрамечава, у дзень святкаваннем 75-й гадавіны вызвалення Брэсцкага раёна ад нямецка-фашыстскіх захопнікаў.

*Надзея ПАРЧУК,*
*сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі*